# ЗЬМЕСТ

# Вітаньне ад Старшыні Рады БНР



Шаноўныя сябры,

Перад вамі справаздача аб працы Рады БНР і зборнік дакумэнтаў Рады за 2012-2014 гады.

Рада БНР ёсьць жывая і дзеючая ўстанова і ганарыцца тым, што застаецца самым старым існуючым носьбітам ідэі беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці.

Цяперашні час абвастрыў пагрозу для незалежнасьці Беларусі. Падзеі, якія з канца 2013 году разгортваюцца ў суседняй і блізкай нам Украіне, сьведчаць пра тое, што цяпер Беларусь як ніколі раней за апошнія амаль 25 гадоў рызыкуе апынуцца ахвярай агрэсіўнага рэваншысцкага рэжыму ў цяперашняй аўтарытарнай Расеі.

Праца Рады актыўна скіраваная на перадухіленьне гэтае пагрозы. Важную ролю адыгрываюць ідэі, адлюстраваныя ў Віленскім Мэмарандуме, падпісаным у 2012 годзе пад эгідай Рады БНР асноўнымі незалежніцкімі і дэмакратычнымі палітычнымі рухамі Беларусі.

Рада заўсёды была адкрытаю для ўсіх сілаў у Беларусі і за яе межамі, якія стаяць на пазыцыях дэмакратыі і незалежнасьці Беларусі, і будзе актыўна працягваць сваю цяперашнюю працу да моманту вяртаньня Беларусі на шлях разьвіцьця ў якасьці незалежнай і дэмакратычнай краіны.

Івонка Сурвіла
Старшыня Рады БНР

# Рада БНР: амаль стагодзьдзе на службе інтарэсаў Беларусі



Рада Беларускае Народнае Рэспублікі – найстарэйшая дзеючая беларуская палітычная і дзяржаўная інстытуцыя, захавальнік традыцый беларускага нацыянальнага руху ад пачатку мінулага стагодзьдзя.

Рада была сфармаваная ў якасьці Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду, які прайшоў у сьнежні 1917 года ў Менску. Зьезд сабраў амаль 1900 дэлегатаў ад органаў мясцовага самакіраваньня, грамадзкіх і палітычных арганізацый усіх рэгіёнаў Беларусі.

У лютым і сакавіку 1918 г. Рада БНР у трох Устаўных Граматах абвесьціла Беларусь сувэрэннай дэмакратычнай дзяржавай, у якой павінны гарантавацца і ахоўвацца ўсе асноўныя правы чалавека і дэмакратычныя свабоды. Тады Рада БНР выконвала функцыю часовага найвышэйшага калектыўнага органа дзяржаўнага кіраваньня на Беларусі. Яе задачаю была падрыхтоўка да правядзеньня Ўстаноўчага Сойму, на якім мелі быць прынятыя базавыя законадаўчыя акты і распачаты працэс фармаваньня пастаянных органаў улады ў краіне. Савецкая акупацыя Беларусі не дазволіла гэтым плянам спраўдзіцца.

Ад 1919 г. Рада БНР дзейнічае ў выгнаньні. За гэты час Рада як прадстаўнік інтарэсаў Беларусі ў вольным сьвеце ўсталявала шчыльныя рабочыя кантакты з урадамі і дыпляматычнымі службамі многіх дзяржаваў, арганізавала шматлікія інфармацыйныя і адукацыйныя праекты, ад стыпэндыяў для беларускіх студэнтаў у заходнеэўрапейскіх унівэрсытэтах да выданьня беларускае літаратуры і пэрыёдыкі. Намаганьнямі Рады БНР было арганізаванае вяшчаньне беларускае службы “Радыё Свабода”, якое па сёньняшні дзень застаецца важным беларускім сродкам масавае інфармацыі.

Адной з задачаў Рады было і застаецца інфармаваньне грамадзкасьці і палітычных колаў краінаў вольнага сьвету аб Беларусі і яе становішчы.

Прадстаўнікі Рады БНР неаднаразова выступалі ў Парлямэнце Вялікай Брытаніі, мелі сустрэчы з вышэйшым кіраўніцтвам Злучаных Штатаў Амэрыкі, Канады, Чэскае Рэспублікі і іншых краінаў. Дзякуючы высілкам Рады БНР яшчэ ў 20-х гг. XX стагодзьдзя палітычнае кіраўнцтва краінаў Захаду было праінфармаванае аб самастойных інтарэсах беларускага народу і пра яго дзяржаўніцкія памкненьні. Менавіта Рада БНР за шмат дзесяцігодзьдзяў пасьлядоўнае працы падрыхтавала глебу для прызнаньня міжнароднай супольнасьцю незалежнасьці Рэспублікі Беларусь у 1991 годзе.

Пасьля распаду СССР і камуністычнага блёку аналягічныя экзыльныя дзяржаўныя структуры іншых краінаў нашага рэгіёну – польскі, украінскі і эстонскі ўрады у выгнаньні, латвійская дыпляматычная служба ў выгнаньні і іншыя – склалі свае паўнамоцтвы на карысьць дэмакратычна абраных уладаў сваіх краінаў. За кароткі час адносна дэмакратычнага разьвіцьця Беларусі Рада БНР не пасьпела гэтага зрабіць: сфармаваны ў 1990 годзе Вярхоўны Савет БССР XII скліканьня яшчэ ня мог лічыцца дэмакратычна абраным парлямэнтам незалежнае Беларусі, а выбары ў Вярхоўны Савет XIII скліканьня ў 1995 годзе прайшлі зь істотнымі парушэньнямі ва ўмовах набіраючага моц аўтарытарнага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

Сучасная місія Рады БНР палягае ў прадстаўніцтве інтарэсаў незалежнай і дэмакратычнай Беларусі ў сьвеце. Рада ўключае восемдзесят членаў (“радных”), якія прадстаўляюць беларускія арганізацыі з 15 краінаў: Аўстраліі, Бэльгіі, Вялікай Брытаніі, ЗША, Канады, Латвіі, Літоўскай Рэспублікі, Нямеччыны, Польшчы, Расеі, Украіны, Францыі, Чэхіі, Швэцыі, Эстоніі. Кожныя тры гады Рада БНР праводзіць Сэсіі, паміж якімі пастаянна дзеючым органам застаецца Прэзыдыюм Рады.

# Старшыня Рады БНР

**Івонка Сурвілла**

Нарадзілася ў 1936 годзе ў Стоўпцах. З 1944 году – у эміграцыі. Жыла ў Францыі, Даніі, Гішпаніі. Цяпер жыве ў Канадзе. Мае дзьвюх дачок.

Вучылася ў Вышэйшай Мастацкай Школе ў Парыжу. Скончыла лінгвістычнае аддзяленьне Сарбонскага Ўнівэрсытэту (1959). Акрамя роднае беларускае мовы валодае ангельскай, францускай, гішпанскай і дацкай мовамі, у мінулым таксама прафэсійна валодала нямецкай, лацінскай, нарвэскай, і польскай мовамі.

У 1958-1965 гадох працавала ў беларускай рэдакцыі Гішпанскага Нацыянальнага Радыё, выкладала францускую мову ў Францускім Інтытуце ў Мадрыдзе. З 1969 году і да апошняга часу працавала на розных пасадах у Бюро перакладаў пры Фэдэральным Урадзе Канады.

Займалася жывапісам, удзельнічала ў мастацкіх выставах.

У 1989 годзе арганізавала Канадзкі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі і заставалася яго кіраўніком да моманту абраньня Старшынёю Рады БНР.

# Прэзыдыюм Рады БНР

**Сяргей Навумчык**
Першы Заступнік Старшыні

У 1990-1995 гг. дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі XII скліканьня, каардынатар парлямэнцкай Апазыцыі БНФ, суаўтар Дэклярацыі аб Дзяржаўным Сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусь, журналіст, аўтар шэрагу кнігаў па гісторыі станаўленьня незалежнай беларускай дзяржавы ў пачатку 1990-х.

**Вячаслаў Станкевіч**
Заступнік Старшыні

З 1990 па 1998 гг. дырэктар беларускай службы "Радыё Свабода", пазьней да 2013 г. выдавец квартальніка "Belarusian Review". Старшыня Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў 1969-1971 і 2007-2011 гг. Ад 2009 г. – Старшыня Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

**Алеся Сёмуха**
Сакратар

**Сяргей Пятровіч**
Скарбнік

**Ала Кузьміцкая**
Пратакольны Сакратар

**Ала Орса-Романо**
Сакратар Адукацыі

**Мікола Пачкаеў**
Сакратар Інфармацыі, Заступнік Сакратара Вонкавых Справаў

**Ганна Сурмач**
Архівіст

**Марат Клакоцкі**

**Хведар Нюнька**

**Аляксандр Старыкевіч**

**Павал Шаўцоў**

**Сяргей Пяткевіч**

# 2012: падзеі

- У верасьні 2012 году афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь правялі кампанію па “выбарах” у “Нацыянальны Сход Рэспублікі Беларусь” і ў мясцовыя саветы. Як і ў папярэднія выбары, гэтая кампанія прайшла з істотнымі парушэньнямі (няроўныя ўмовы ўдзелу ў кампаніі для розных кандыдатаў, ціск на апазыцыйных кандыдатаў і СМІ, непразрыстасьць падліку галасоў), якія не дазваляюць кваліфікаваць іх як свабодныя і справядлівыя.

- Эўрапейскі Парлямэнт прыняў адмысловую рэзалюцыю, у якой адзначаецца пагаршэньне сытуацыі адносна правоў чалавека ў Беларусі і неадпаведнасць “парлямэнцыіх выбараў” 2012 г. міжнародным стандартам.

- Агулам за 2012 год Эўрапейскі Парлямэнт прыняў чатыры рэзалюцыі адносна Беларусі (давёўшы тым самым іх агульную колькасць да 37), у тым ліку пра непрызнаньне “парлямэнцкіх выбараў” і рэпрэсіі супраць журналіста Андрэя Пачобута.

- У студзені на тэрыторыі Беларусі, Казахстану і Расеі абвешчаная Адзіная эканамічная прастора.

- 4 сакавіка Ўладзімір Пуцін атрымаў перамогу на прэзыдэнцкіх выбарах у Расеі. 7 траўня ён у трэці раз заняў пасаду Прэзыдэнта Расейскай Фэдэрацыі.

- 22 студзеня ў Харватыі прайшоў агульнанацыянальны рэфэрэндум, на якім большасьць выбарцаў прагаласавала за далучэньне да Эўрапейскага Зьвязу.

- Афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь зрабілі шэраг спрыяльных заяваў і жэстаў у кірунку папулярызацыі і падняцьця прэстыжу беларускае мовы, аднак істотных зрухаў убок ад палітыкі русіфікацыі так і не было зроблена.

- 14 красавіка вызвалены з калёніі беларускі палітык, кандыдат у прэзыдэнты на выбарах 2010 г. Андрэй Саньнікаў. 27 верасьня

вызвалены іншы палітвязень, актывіст КХП-БНФ Сяргей Каваленка, у чыю падтрымку неаднаразова выказвалася Рада БНР.

- На канец году ў турмах Беларусі заставаліся палітычныя вязьні, у тым ліку Алесь Бяляцкі, Мікола Статкевіч, Зьміцер Дашкевіч, Павал Севярынец, Андрэй Пачобут.

# 2012: публічныя мерапрыемствы

- Сакавік: Рада БНР прадставіла Беларусь на міжнароднай канфэрэнцыі “Прававое ўрэгуляваньне злачынстваў камунізму”, якая праходзіла ў Брусэлі пад эгідай дэпутатаў Эўрапейскага Парлямэнту, у тым ліку і двух былых ягоных прэзыдэнтаў – Ежы Бузэка і Ганса Пётэрынґа.

  Сваё прывітаньне ўдзельнікам канфэрэнцыі даслала старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, якая адзначыла, што ў Беларусі цягам дзесяцігодзьдзяў фізычнае зьнішчэньне людзей камуністычнай сыстэмай спалучалася з сыстэматычнай русыфікацыяй, здушэньнем мовы, культуры, нацыянальных адметнасьцяў.

  Намесьнік сакратара замежных справаў Рады БНР Мікола Пачкаеў выступіў з дакладам “Да пытаньня аб прававым урэгуляваньні злачынстваў камунізму: беларуская пэрспэктыва”. Удзельнікі канфэрэнцыі заклікалі да стварэньня наднацыянальнага судовага воргану ў справе цяжкіх злачынстваў камуністычных дыктатураў.

- 14 сакавіка Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла зьвярнулася да апостальскага нунцыя ў Беларусі Кляўдыё Гуджэроты з просьбай, каб Ватыкан хадайнічаў перад беларускімі ўладамі аб вызваленьні палітвязьня Сяргея Каваленкі.

- 17 сакавіка Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла пракамэнтавала інфармацыю пра растрэл Уладзіслава Кавалёва і Дзьмітрыя Канавалава, абвінавачаных у арганізацыі тэрарыстычнага акту ў менскай падземцы 11 красавіка 2011 г., а таксама прымусовы перавод палітвязьня Сяргея Каваленкі ў псыхіятрычны шпіталь:

*“Веру адвакатам, што віны [Кавалёва і Канавалава] суд адэкватна не даказаў. Непамілаваньне іх і сьпешны растрэл сьведчаць пра нялюдзкасьць сучаснага рэжыму ў Беларусі. На жаль, дзеля яго Беларусь траціць усе шанцы заняць пачэснае месца ў сям’і народаў Эўропы.*

*Што да перавозу Сяргея Каваленкі ў псыхіятрычны шпіталь, уважаю гэта проста цынізмам, зьдзекам над тымі, хто клапоціцца пра лёс і жыцьцё выдатнага чалавека, адзіная віна якога — любоў да Беларусі.”*

- 17 траўня: Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла пракамэнтавала адмову Amnesty International прызнаць Сяргея Каваленку вязьнем сумленьня:

*“Арганізацыя заняла пазыцыю на баку рэжыму Лукашэнкі, які ўсе 18 гадоў свайго кіраваньня пасьлядоўна зьдзекуецца над сваім народам, зьнішчае чалавечыя правы. Спасылка на “супраціў міліцыянтам” увогуле выглядае цынічна – вядома, што Сяргея Каваленку ў часе затрыманьня жорстка зьбілі менавіта супрацоўнікі міліцыі. (...)*

*Хачу адзначыць, што я, і сябры Рады БНР неаднаразова зьвярталіся ў справе Сяргея Каваленкі да заходніх палітыкаў, і нязьменна сустракалі разуменьне сытуацыі. Рада БНР лічыць, што Сяргей Каваленка (як і іншыя палітычныя вязьні) павінен быць неадкладна вызвалены”.*

- 10 жніўня: Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла перадала віншаваньні палітвязьню Міколу Статкевічу празь ягоную жонку Марыну Адамовіч:

*Шаноўная спадарыня Марына,*

*паколькі ведаю, што маё віншаваньне ня дойдзе да спадара Статкевіча – пішу Вам.*

*У дзень ягонага нараджэньня, як і заўсёды ў гэты час, калі ён знаходзіцца за кратамі, сябры Рады БНР жадаюць яму моцы і вытрымкі, каб перанесьці тыя зьдзекі, на якія асудзіла яго нялюдзкая ўлада. Мы таксама выказваем салідарнасьць асабіста Вам і верым, што Вашыя намаганьні, як і высілкі ўсіх тых, хто ў Беларусі і ў замежжы змагаецца за найхутчэйшае вызваленьне Мікола Статкевіча – прынясуць свой плён.*

*З павагай – Івонка Сурвіла,*
*Старшыня Рады БНР*

- 25 жніўня: Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла павіншавала праваабаронцу і палітвязьня Алеся Бяляцкага з 50-годзьдзем:

*Дарагі Алесь! Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую Вас зь юбілеем.*

*Моцна перажываю, што пасьля доўгіх гадоў змаганьня за лепшую долю свайго народу, Вы мусіце адзначаць гэты вялікі дзень у няволі. Веру, аднак, што тое, што Вы зрабілі ў абарону беларускага народу, выбіраючы шлях праўды і справядлівасьці, дапаможа Вам перанесьці і гэтае выпрабаваньне. Думкамі будзем у гэты дзень з Вамі і з Вашымі роднымі. Жыве Беларусь!*

- Верасень: Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла ўзяла ўдзел у 30-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая адбылася ў Таронта. Удзельнікі сустрэчы выказалі падтрымку тым беларусам, якіх рэжым Лукашэнкі перасьледуе за іх погляды, а таксама падтрымалі дзейнасьць Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

- 4 лістапада пад эгідай Рады БНР у Вільні адбылася нарада беларускіх дэмакратычных палітычных сілаў з мэтаю выпрацоўкі захадаў у справе забесьпячэньня абароны незалежнасьці Беларусі. Удзельнікі сустрэчы адзначылі небясьпеку палітыкі самаізаляцыі і зьнішчэньня беларускай нацыянальнай сьвядомасьці, пацьвердзілі, што неабходнай зарукай для забесьпячэньня беларускага нацыянальнага сувэрэнітэту ёсьць дэмантаж аўтарытарнага рэжыму А. Лукашэнкі. Як першачарговыя мэты былі названыя неадкладнае вызваленьне палітвязьняў і спыненьне палітычных рэпрэсіяў.




На 30-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронта. Сустрэчы ладзяцца кожныя два гады ў пачатку верасьня Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем і Згуртаваньнем Беларусаў Канады



Нарада беларускіх дэмакратычных сілаў у Вільні. Сярод удзельнікаў – Вінцук Вячорка (аргкамітэт "Беларускага Руху", былы старшыня Партыі БНФ), Аляксандар Дабравольскі (Аб'яднаная Грамадзянская Партыя), Мікалай Дземідзенка ("Малады Фронт"), Аляксандар Мілінкевіч ("За Свабоду", былы адзіны кандыдат у прэзыдэнты Беларусі), Станіслаў Шушкевіч (БСДГ, былы Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь), Аляксей Янукевіч (Партыя БНФ) і прадстаўнікі іншых беларускіх палітычных партый і рухаў

## “Сяргей Каваленка верыць у нашу беларускасьць і мужнасьць”: Зварот старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы з нагоды Дня Волі – 2012

Дарагія Суродзічы,

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую Вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам, Днём Волі, калі наш народ, пасьля доўгага прыгнёту, абвясьціў сьвету, што ён таксама хоча быць гаспадаром на сваёй зямлі.

Дарагія Суродзічы,

Здабылі мы незалежнасьць 25 сакавіка 1918 году і зьберагнлі дасюль ідэалы 25 сакавіка, нягледзячы на шматлікія перашкоды, таму што былі між намі героі, якія разумелі цану волі і бязьмежна любілі свой край і свой народ.

Гэтае маё Сакавіцкае прывітаньне хачу прысьвяціць аднаму з нашых сучасных герояў, з жыцьця якога варожы рэжым зьдзекуецца сёньня, — Сяргею Каваленку.

Што Сяргей дужы, адважны і патрыёт — мы даўно ведалі.

Толькі ворагі не адчулі радасьці, калі ён узьлез на калядную ялінку ў Віцебску зь Бел-Чырвона-Белым Сьцягам у руках. Гэтыя ворагі сёньня стараюцца яго зьнішчыць.

Словы, якія Сяргей перадаў нам праз жонку Алену, застануцца ў сэрцы кожнага беларуса.

Сяргей папрасіў, каб сьвяткавалі Дзень Волі зь Бел-Чырвона-Белымі Сьцягамі ў руках. Гэта будзе падтрымкай і для яго.

Ён заявіў, што дабрабыту ня можа быць без культуры, а падмуркам культуры зьяўляецца родная мова, і што трэба шанаваць свае нацыянальныя каштоўнасьці — гісторыю і мову.

Сяргей сказаў, што мы самі — наш беларускі народ — уратуем сваю краіну, і толькі тады падтрымаюць нас іншыя краіны. Таксама сказаў, што толькі беларускі народ можа дапамагчы яму выйсьці з гэтага цяжкага стану.

Дарагія суродзічы, не расчаруйма героя! Ён верыць у нашую беларускасьць і ў нашую мужнасьць. Ён верыць у свой народ і гатовы аддаць сваё жыцьцё дзеля гэтае веры. Будзьма годнымі героя! Як напісаў Антось са Слуцку: наша чарга дзейнічаць! Кожны чым і як можа. Дзесяць мільёнаў галасоў не застануцца без адказу!

Дык памажы нам Божа! Памажы Божа Сяргею Каваленку!

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвіла, Старшыня Рады БНР.**



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

4 жніўня 2012 г.

**Заява**
**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**
**З нагоды адмовы працягу акрэдытацыі амбасадара Каралеўства Швэцыі ў Рэспубліцы Беларусь Стэфана Эрыксана**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ацэньвае канфліктныя дэмаршы дзяржаўнага кіраўніцтва Аляксандра Лукашэнкі супраць краінаў Эўрапэйскага Зьвязу і ЗША, з асаблівай згадкаю адмовы працягу акрэдытацыі амбасадара Каралеўства Швэцыі ў Рэспубліцы Беларусь Стэфана Эрыксана, як супярэчныя прынцыпам міжнародных адносінаў, базавым інтарэсам Беларусі і яе народу, і пазбаўленыя агульнай міжнародна-палітычнай адэкватнасьці.

Рада БНР канстатуе, што, супрацьпастаўляючы Беларусь міжнароднай супольнасьці высока-разьвітых дэмакратычных дзяржаваў, зьнешняя палітыка лукашэнкаўскага кіраўніцтва разбурае сувязі беларускага грамадзтва з дэмакратыямі ў вонкавым сьвеце. Гэтак яна канчаткова ператворана ў прыладу рэалізацыі мэтаў, супярэчных інтарэсам беларускага народу. У рамках гэткай палітыкі, Беларусь ператворана ў закладніцу для ўтрыманьня асабістай ўлады Аляксандрам Лукашэнкам і інтарэсаў яго атачэньня, насуперак і на шкоду інтарэсам грамадзтва і дзяржавы. Такая зьнешняя палітыка служыць зьнешнепалітычнаму забесьпячэньню палітычных рэпрэсіяў у Беларусі.

Рада БНР зазначае, што дзяржаўнае кіраўніцтва Аляксандра Лукашэнкі страціла дэмакратычную легітымнасьць, усталяваўшы самаўладны рэжым і пазбавіўшы беларускі народ свабоднага і справядлівага абраньня сваёй ўлады. Мэты, што рэалізуюцца шляхам вонкавай палітыкі гэтага кіраўніцтва, дадаткова сьведчаць, што яно ня можа таксама ў міжнародных дачыненьнях разглядацца ў якасьці паўнамоцнага і дамоваздольнага прадстаўніка Беларусі.

Рада БНР адзначае асаблівыя асабістыя заслугі амбасадара Стэфана Эрыксана накарысьць доўгатэрміновых швэдзка-беларускіх адносінаў, выразы яго асабістай неабыякавасьці да беларускай культуры, мовы і будучыні краіны ў гэты цяжкі момант яе гісторыі, што здабылі вельмі шырокае прызнаньне сярод грамадзянскай супольнасьці Беларусі.

Рада БНР зьвяртаецца да ўраду Каралеўства Швэцыі і Эўрапэйскага Зьвязу з заклікам узмацніць і завострыць палітыку разьдзяденьня паміж сваімі дачыненьнямі з грамадзтвам Беларусі з аднаго боку – і сваімі адносінамі з пануючай у Беларусі ўладай з другога. Беларускаму грамадзтву патрэбная дапамога для ўмацаваньня здольнасьці супрацьстаяць рэпрэсіям. Замест ізаляцыі Беларусі пануючым рэжымам ад дэмакратычнага сьвету, патрабуецца забясьпечыць ізаляцыю гэтага кіраўніцтва ад народа і краіны ў самой Беларусі.

Рада БНР адзначае асаблівую глыбіню шкоды, спрычыненай адносінам Беларусі з дэмакратычнымі дзяржавамі напрацягу 18 гадоў самаўладзьдзя Аляксандра Лукашэнкі. Беларусі, з боку краінаў і інстытуцыяў Эўрапэйскага Зьвязу, запатрабуецца асаблівыя захады дапамогі ў мэтах комплекснай рэабілітацыі краіны ад наступстваў шкоднай дзейнасьці сучаснага рэжыму ў палітычнай, юрыдычнай, гаспадарчай і іншых галінах, дзеля стварэньня новай магчымасьці вяртаньня Беларусі ў супольнасьць дэмакратычных дзяржаваў Эўропы.

**Zvarot Staršyni Rady BNR Ivonki Surviły da ŭdzielnikaŭ 30-je Sustrečy Biełarusaŭ Paŭnočnaj Ameryki**

**1 vieraśnia 2012 h.**

Dastojny Ŭładyka, šanounyja surodzičy, darahija siabry,

Temy našych kruhłych stałou śviedčać, što biełaruskaja dyjaspara u Paŭnočnaj Amerycy – žyććiazdolnaje i salidarnaje hramadztva, jakoje kłapocicca pra dabrabyt svaich surodzičaŭ i hatovaje spryčynicca da dabrabytu novych chvalaŭ emihrantaŭ ź Biełarusi.

Raskoł miž pakaleńniami pačynaje pa krysie źnikac. Z hłybini serca žadaju, kab hety praces jak najchutčej pieratvaryŭsia ŭ sapraŭdy źjadnanuju supolnaść Biełarusaŭ Paŭnočnaj Ameryki, bo tolki takoj jana asiahnie svaje mety, emihranckija i biełaruskija.

Pražyušy amal ŭsio žyćcio na čužynie, ja niaraz dumała, ci stałasia heta prypadkova, ci apynulasia ja na čužynie ŭ vosiem hadoŭ dziela niejkaj pryčyny. Dumka, što straciła moj rodny kraj prypadkova, była dla mianie nia znosnaj. Spadziajusia, što vy taksama heta adčuvajecie.

Ad rospačy mianie vyratavała mocnaje pačućcio prynaležnaści Biełarusi. Vielmi rana zrazumieła rolu, jakaja prypadaje emihrantam z paniavolenych krainaŭ. Rola našaja byla kalis, i faktyčna nie zmianiłasia dasiul – być hołasam źniamiełaha narodu, jak jaho nazvaŭ Vasil Bykaŭ. Narodu, jaki navat zabyŭsia, jakoju kaštounaściu jość svaja mova.

U Zachodnim śviecie, my zdolnyja adradzić stračanaje. My zdolnyja pakazać śvietu, jaki my talenavity i pracavity narod. Pakazać śvietu našuju žyćciazdolnaść, našuju haścinnaść, našyja maralnyja jakaści. Hetym my zdabudziem nia tolki pačesnaje miesca miž inšymi hramadzianami krainaŭ, dzie my pražyvajem, ale adnačasna zdabudziem, bieź vialikich ciažkaściaŭ, pryjacielaŭ dla Biełarusi, jakich naš kraj zaŭsiody mieŭ zamała, kali jany byli patrebnyja.

Zdabyvać pryjacielaŭ dla Biełarusi, infarmavać śviet pra našuju kulturu, adkryvać śvietu sapraŭdnuju Biełaruś – pra heta ja havaryła na minułaj Sustrečy, i niaraz pierad tym. Bo heta ŭvažaju hałoŭnaj rolaj biełaruskaj dyjaspary. Abaviazkam kožnaha z nas – pakazać svietu, što Biełaruś, pra jakuju

jon čuje ŭ SMI, heta nie Biełaruś, heta akupavanaja terytoryja pad jarmom adnaje siamji i jaje siłavych, namenklaturnych i čužackich paplečnikaŭ.

Pryjdzie čas, kali rola našaja źmienicca, kali zmožam pieradać našamu narodu ŭsio najlepšaje, što navučylisia ŭ krainach, dzie pražyvajem, uklučna z kanceptami voli, demakratyi, uzajemapašany – pra jakija jon zabyŭsia padčas doŭhaha pryhniotu. Našaj rolaj budzie tady adkryć śviet biełaruskamu narodu, śviet, pra jaki jon taksama mała viedaje, bo heta nia vyhadna pryhniatalnikam.

U kancy, dazvolcie jašče raz skazać, što pierad tym, jak pačniom dumać, jak najlepš uładkavać našaje siońniašniaje žyćcio, my nia majem prava zabyvacca pra svaje karani, svaju spadčynu, svoj narod. Pra toje, što robicca ŭ Biełarusi. Darahija siabry, kožnaja dyjaspara ŭ śviecie kłapocicca pra pakinuty kraj. Našym abaviazkam jość dahledzić, kab pakinuty kraj nie staŭsia stračanym krajem.

**Ivonka Surviła**

## Рада БНР гатовая да супрацоўніцтва

*Артыкул Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы*

У апошнія месяцы мне даводзілася шмат чытаць прапаноў і меркаваньняў, датычных дзейнасьці Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якую я маю гонар узначальваць. Разумею, што гэта выклікана ў тым ліку і новай хваляй эміграцыі з Бацькаўшчыны – людзі, якія актыўна змагаліся з рэжымам у Беларусі, хочуць працягваць рабіць гэта і ў замежжы. Такое жаданьне, безумоўна, вартае павагі і ўсялякай падтрымкі. І Рада БНР гатовая да супрацоўніцтва з сапраўднымі беларускімі патрыётамі. Але, вітаючы іх рашучасьць, я, адначасна, хацела б выказацца адносна небясьпекі пасьпешлівых ці не да канца прадуманых дзеяньняў.

У жніўні на вэб-сайце “Беларускі партызан” быў надрукаваны артыкул шаноўнага Уладзімера Барадача. Я чула гэтае прозьвішча і раней – а днямі незалежная прэса прыгадала легендарную прысягу афіцэраў-патрыётаў, якую 8 верасьня 1992 году на плошчы перад Домам ураду зачытваў палкоўнік Барадач. Ужо адно гэта сьведчыць, што ён – чалавек, адданы беларускай справе не адзін дзень і не адзін год. У сваім артыкуле спадар Барадач выказвае шэраг меркаваньняў, многія з якіх я падзяляю (хаця зь іншымі і паспрачалася б) і прыгадвае пра свой ліст да Рады БНР. Сапраўды, адзін з маіх калегаў атрымаў такі ліст, які мы ўспрынялі як канфідэнцыйны і пачалі рыхтаваць на яго адказ, але сваім артыкулам спадар Барадач прымусіў закрануць некаторыя пытаньні публічна. Зрэшты, можа быць, гэта і да лепшага: зьявілася нагода яшчэ раз высьветліць і патлумачыць пазыцыю і становішча Рады БНР.

Па-першае, хачу нагадаць, што на працягу дзесяцігодзьдзяў Рада БНР заяўляла на міжнароднай арэне пра сувэрэнныя правы беларускага народа на ўласную дзяржаву. У самыя змрочныя часы бальшавіцкага тэрору, панаваньня камуністычнай сыстэмы, калі нашыя суродзічы на Бацькаўшчыне не маглі ў голас казаць пра беларускую Незалежнасьці (а тыя, хто меў сьмеласьць гэта вымавіць – ішлі ў Курапаты і ў ГУЛаг) – Рада БНР заяўляла, што Беларусь павінна быць сувэрэннай дзяржавай. Да прыкладу, у 1950-70-ыя гады на 25 сакавіка сябры Рады БНР мелі выступы ў Кангрэсе ЗША, у парлямэнтах іншых дзяржаў, пра што, зразумела, у савецкай прэсе не казалася ні слова, але праз заходні друк людзі ў розных краінах даведваліся пра Беларусь.

У пачатку 1990-ых, калі Беларусь аднавіла незалежнасьць, некаторым здавалася, што функцыі Рады БНР вычарпаныя і што варта перадаць

мандат ў Менск. Між іншым, гэтага вельмі моцна дамагалася ад Рады кіраўніцтва тагачаснага ўраду, на чале якога быў Кебіч. У прыклад ставілася Украіна, дзе ўрад УНР склаў свае паўнамоцтвы перад прэзыдэнтам Краўчуком. Аднак мы не былі перакананыя ў незваротнасьці дэмакратычных працэсаў і, галоўнае, у поўным зьнікненьні пагрозы Беларускай дзяржаўнасьці. На жаль, нашыя засьцярогі пацьвердзіліся – з прыходам Лукашэнкі дэмакратыя ў Беларусі была задушаная, а пагроза анэксіі краіны Масквой застаецца і нават павялічваецца. Што да прыкладу Украіны, дык магу засьведчыць, што мне неаднаразова даводзілася чуць шкадаваньне прадстаўнікоў украінскай дыяспары з нагоды заўчаснай, як на іх думку, перадачы мандату.

Па-другое, я хацела б адказаць тым, хто заяўляе, што "ня бачыць" дзейнасьці Рады БНР. Безумоўна і для нас бясспрэчна: галоўнае змаганьне за Беларусь адбываецца ў самой Беларусі – сіламі тых актывістаў, якія вядуць штодзённую працу і вельмі часта плоцяць за гэта сваёй свабодай, як Алесь Бяляцкі, Зьміцер Дашкевіч, Сяргей Каваленка, Павал Севярынец, Мікола Статкевіч. Рада БНР ўсялякімі спосабамі падтрымлівае іх дзейнасьць у сваіх кантактах з палітыкамі заходніх краінаў. Адразу пасьля падзеяў 19 сьнежня 2010 году Рада БНР выступіла з адпаведнай заявай, асабіста я кантактавала з прадстаўнікамі канадыйскага ўраду, мы запатрабавалі максымальна жорсткага стаўленьня да Лукашэнкі і выканаўцаў злачынных дзеяньняў супраць мірных маніфэстантаў. Разам з тым, мы заўсёды просім кіраўніцтва заходніх дзяржаў разьмяжоўваць паняцьці "рэжым" і "народ" (што выяўляецца, напрыклад, у патрабаваньні ўвесьці санкцыі супраць адказных за рэпрэсіі і адначасна – скасаваць альбо, у крайнім выпадку, максымальна спрасьціць візавы рэжым для звычайных грамадзянаў Беларусі ў заходнія краіны). Мы таксама падтрымліваем грамадзкія і культурніцкія праекты ў Беларусі – пералік іх заняў бы тут багата месца.

Пры ўсім гэтым існуе адна акалічнасьць, пра якую хачу тут сказаць (і, калі не памыляюся, публічна -- ўпершыню): Рада БНР не карыстаецца ніякай фінансавай падтрымкай ад заходніх дзяржаў ці арганізацый. Усё, што мы маем – гэта складкі і добраахвотныя ахвяраваньні актывістаў беларускай дыяспары. Такая практыка не спрашчае працу, але дае тую несумненную і каштоўную перавагу, што дазваляе нам пачувацца незалежнымі ад тых ці іншых дзяржаў ці палітыкаў.

Ня мае Рада БНР дачыненьня і да разьмеркаваньня грантаў.

Цяпер колькі слоў пра паўнамоцтвы Рады.

З 1918 году – ужо больш як дзевяць дзесяцігодзьдзяў -- Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прадстаўляе сувэрэнныя правы беларускага народа на грунце Акту 25 сакавіка, а не якую-небудзь партыю ці групу партый. Рада БНР зьяўляецца адзіным, непадзельным органам, цалкам адказным за спаўненьне свайго мандату.

Рада БНР можа перадаць свае паўнамоцтвы толькі свабодна абранаму воргану ўлады ў Беларусі – калі будзе перакананая, што гэты ворган у стане гарантаваць захаваньне Незалежнасьці Беларусі.

Такім чынам, паўнамоцтвы і легітымнасьць Рады не падлягаюць ніякаму частковаму падзелу і частковай перадачы. Іншымі словамі, Рада БНР ня можа перадаць нейкую частку сваіх статутных функцыяў – воргану ўлады, партыі ці групе асобаў.

Пры гэтым, Рада можа прадаставіць сваю эгіду -- напрыклад, для вялікай кааліцыі сілаў, якія абапіраюцца на ідэалы Акту 25 сакавіка, калі такая кааліцыя паўстане з саміх палітычных сілаў у Беларусі. Гэтак сама, Рада можа стварыць экспэртныя групы для выпрацоўкі пэўных прапаноў і рашэньняў ў пэўных галінах, прыцягваючы да гэтага адмыслоўцаў як з Беларусі, гэтак і з дыяспары.

Часам да мяне і маіх калег зьвяртаюцца з прапановамі выказаць стаўленьне да тых ці іншых праблемаў, якія непасрэдна закранаюць узаемадачыненьне паміж арганізацыямі і асобамі, якія ў Беларусі змагаюцца з рэжымам Лукашэнкі. Павінна адзначыць, што Рада прынцыпова ня ўмешваецца ва ўнутраныя канфлікты і не займае бок нейкай канкрэтнай палітычнай арганізацыі ці групы арганізацый. Наадварот – мы падтрымліваем усе палітычныя сілы, якія змагаюцца за Незалежнасьць Бацькаўшчыны.

І, безумоўна, адкрытыя да супрацоўніцтва – як з арганізацыямі ў Беларусі, гэтак і з тымі, якія створаныя ў замежжы тымі, каму прыйшлося ратавацца ад перасьледу на чужыне. Спадзяюся, што неўзабаве ў мяне будзе магчымасьць абмеркаваць гэта з Уладзімерам Барадачом і зь іншымі патрыётамі Беларусі.

**12 верасьня 2012 г.**

## Мэмарандум
## нарады старшыняў і кіраўнікоў
## беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў
## са Старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

## Аб захадах для забесьпячэньня незалежнасьці Беларусі

**3 лістапада 2012 г., м. Вільня**

Мы, ніжэйпадпісаныя прадстаўнікі палітычных і грамадзкіх арганізацыяў Беларусі, на сходзе 3-га лістапада 2012 году ў Вільні пад эгідай, пры паразуменьні і ва ўзаемадзеяньні са Старшынёй і сябрамі Прэзыдыюму Рады БНР:

- усьведамляючы небясьпеку, якая паўстала ў выніку паступовае страты структураю дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы Беларусі, па меры яе ператварэньня ў прыладу рэжыму асабістай улады А. Лукашэнкі, рысаў беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці й функцыяў гарантаваньня беларускага нацыянальнага сувэрэнітэту;

- перакананыя, што суб’ектам і першасным гарантам незалежнай дзяржаўнасьці Беларусі і нацыянальна-культурнай пэрспэктывы беларусаў ёсьць сам беларускі народ, які павінен сьцьвярджаць сваю палітычную волю ва ўмовах свабоды;

- разглядаючы справу захаваньня і паўнавартаснай адбудовы сувэрэнітэту беларускага народу ў нашай нацыянальнай бацькаўшчыне як мэту, што яднае палітычную супольнасьць у Беларусі і беларусаў ва ўсім сьвеце,

пагадзіліся ў наступным і прымаем узаемныя абавязкі дзеля наступнага:

(1) Зарукай забесьпячэньня беларускага нацыянальнага сувэрэнітэту будзе аднаўленьне мэханізму прыняцьця беларускім грамадзтвам свабодных і абгрунтаваных рашэньняў аб сваёй палітычнай будучыні, што запатрабуе дэмантажу аўтарытарнага рэжыму. Як найхутчэй маюць быць прынятыя меры засьцярогі ад паўторнага надыходу аўтарытарызму і злоўжываньня ўладай.

(2) Трэба дамагацца як найшырэйшага прызнаньня міжнароднай супольнасьцю, што Аляксандар Лукашэнка і дзяржаўныя органы пад ягоным кантролем, пры адсутнасьці дэмакратычнай легітымнасьці, ня

ёсьць правамоцным і дзеяздольным прадстаўніцтвам Беларусі, асабліва у разе прыняцьця ад імя Беларусі абавязкаў і пагадненьняў з наступствамі, якія абмяжоўваюць ці абцяжарваюць яе сувэрэнітэт або датычаць распродажу дзяржаўнай маёмасьці. Гэткія пагадненьні ня будуць абавязковыя для дэмакратычнай беларускай дзяржавы ў будучыні, а стануць прадметам перагляду і магчымага скасаваньня або карэкцыі.

(3) Неабходная каардынацыя намаганьняў грамадзкіх і палітычных арганізацыяў, у т.л. беларусаў замежжа, для супрацьстаяньня афіцыйнай прапагандзе, якая зьнішчае беларускую нацыянальную сьвядомасьць, і для ўмацаваньня ў беларускім грамадзтве ўсьведамленьня каштоўнасьці сувэрэннага нацыянальнага існаваньня.

(4) Павінен быць мацнейшы скаардынаваны ціск палітычнай і грамадзянскай супольнасьці ў краіне і за яе межамі дзеля зьмяншэньня ў беларускім грамадзтве пачуцьця страху, найперш вызваленьня і рэабілітацыі палітычных вязьняў, спыненьня палітычных рэпрэсіяў і дэмантажу рэпрэсіўнага апарату, свабоды для сродкаў масавай інфармацыі, а ўрэшце – правядзеньня свабодных выбараў. Выкананьне гэтых умоваў дазволіць Беларусі выйсьці зь міжнароднай самаізаляцыі, адкрые магчымасьці дзеля падвышэньня дабрабыту народу і ўмацаваньня сувэрэнітэту праз належны ўдзел у сыстэме міжнародных дачыненьняў.

(5) Неабходна дамагацца гарантыяў непарушнасьці беларускага нацыянальнага сувэрэнітэту з боку краінаў Эўрапейскага Зьвязу, Злучаных Штатаў Амэрыкі і Расейскай Фэдэрацыі, непрызнаньня міжнародна-праўнай сілы любых небясьпечных для сувэрэннага статусу Беларусі рашэньняў, якія ад яе імя можа зрабіць аўтарытарнае кіраўніцтва, а таксама непрызнаньня легітымнасьці любых шкодных для сувэрэнітэту Беларусі правоў і прывілеяў, якія Расейская Фэдэрацыя можа сьцьвярджаць ці дамагацца ў Беларусі на грунце дактрыны “зоны асаблівых інтарэсаў”.

(6) Дзеля забесьпячэньня сувэрэнітэту ад рызыкаў крызіснага і пераходнага пэрыяду ў абставінах каляпсу аўтарытарнага рэжыму неабходна распрацаваць і палітычна ўзгадніць супольны пакет першачарговых палітычных, эканамічных і юрыдычных захадаў у галіне энэргэтычнай і харчовай бясьпекі, культурна-інфармацыйнай палітыкі, забесьпячэньня адміністрацыйнай кіравальнасьці ва ўмовах пераходу да дэмакратыі, барацьбы з карупцыяй і арганізаванай злачыннасьцю, а таксама забясьпечыць максымальную падтрымку, якую можна мабілізаваць з боку прыхільных гэтым мэтам дзяржаваў і міжнародных арганізацыяў.

(7) Удзельнікі нарады зь Беларусі пацьвярджаюць прызнаньне Рады БНР у яе статутнай ролі непартыйнага, надпалітычнага органу беларускай гістарычнай дзяржаўнасьці, будуць імкнуцца каардынаваць з Радай БНР працу дзеля дасягненьня вышэйзгаданых супольных задачаў, будуць разьлічваць на адпаведнае садзеяньне і падтрымку з боку Рады БНР, будуць спрыяць Радзе у яе дзейнасьці дзеля канчатковага спаўненьня свайго гістарычнага мандату.

(8) Да часу надыходу статутных умоваў складаньня Радай БНР свайго гістарычнага мандату, г. зн. абраньня дэмакратычнае ўлады на свабодных выбарах, пры гарантаванай дзяржаўнай незалежнасьці, прадстаўнікі беларускай палітычнай і грамадзянскай супольнасьці прызнаюць Раду БНР рэзэрвовым палітычным дэпазытарам беларускай незалежнай дзяржаўнай традыцыі. Старшыня і сябры Прэзыдыюму Рады БНР пацьвярджаюць адданасьць Рады мэце спаўненьня свайго статутнага мандату. Да часу заканчэньня свайго мандату Рада БНР можа адыгрываць таксама іншыя ролі, да якіх была б належна пакліканая беларускай палітычнай супольнасьцю і грамадзтвам.

Беларускія палітычныя і грамадзкія арганізацыі і Рада Беларускай Народнай Рэспублікі маюць намер забясьпечваць у маштабе ўсясьветнай беларускай супольнасьці палітычную ды інфармацыйную каардынацыю, а таксама спрыяць адпаведнаму ўзаемадзеяньню рэсурсаў сваіх арганізацыяў і органаў на ўсіх узроўнях, у Беларусі і ў вонкавых кантактах, у рэалізацыі супольных і (ці) скаардынаваных захадаў дзеля захаваньня нацыянальнай незалежнасьці ў абставінах самаізаляцыі, крызісу і дэмантажу аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі.

[Подпісы прадстаўнікоў арганізацыяў у альфабэтным парадку – на момант падпісаньня ў Вільні 03.11.2012 г.:]

*Барадач Уладзімер, Аргкамітэт "Савету нацыянальнага адраджэньня"*

*Вячорка Вініцук, Аргкамітэт "Беларускага Руху"*

*Дабравольскі Аляксандар., Аб'яднаная грамадзянская партыя*

*Дземідзенка Мікалай, "Малады Фронт"*

*Карач Вольга, ГК "Наш Дом"*

*Колас Уладзімер, Рада беларускай інтэлігенцыі*

*Мілінкевіч Аляксандар, “Рух “За Свабоду”*

*Шушкевіч Станіслаў, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада*

*Янукевіч Аляксей, Партыя БНФ*

[Подпісы прадстаўнікоў арганізацыяў у альфабэтным парадку – на момант апублікаваньня 12.11.2012 г.:]

*Някляеў Уладзімер, кампанія “Гавары праўду”*

*Пазьняк Зянон, Кансэрватыўна-хрысьціянская партыя БНФ*

*Рымашэўскі Віталь, Аргкамітэт партыі Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя*

*Сіўчык Вячаслаў, Рух салідарнасьці “Разам”*

***Ад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі – Сурвіла Івонка, Старшыня Рады БНР***



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

13 лістапада 2012 г.

**Заява Сакратарыяту Вонкавых Спраў Рады БНР датычна крытыкі Віленскага Мэмарандуму з боку А. Саньнікава**

Азнаёміўшыся з адказамі сп. Саньнікава адносна прычынаў недалучэньня да Выніковага Мэмарандуму, падпісанага 3.11.2012 г. у Вільні, Сакратарыят вонкавых Спраў Рады БНР мае заявіць наступнае.

Крытыка сп. Саньнікава ў частцы пункту Мэмарандуму аб захадах для дадатковых міжнародных гарантыяў непарушнасьці беларускага нацыянальнага сувэрэнітэту ігнаруе зьмест тых пагрозаў для сувэрэнітэту, з увагі на якія сфармуляваны гэты пункт.

Тэкст Выніковага Мэмарандуму непасрэдна кажа аб імкненьні да гарантыяў, спрыяльных для забесьпячэньня “непрызнаньня міжнародна-праўнай сілы любых небясьпечных для сувэреннага статусу Беларусі рашэньняў, якія ад яе імя можа зрабіць аўтарытарнае кіраўніцтва, а таксама непрызнаньня легітымнасьці любых шкодных для сувэрэнітэту Беларусі правоў і прывілеяў, якія Расейская Фэдэрацыя можа сьцьвярджаць ці дамагацца ў Беларусі на грунце дактрыны “зоны асаблівых інтарэсаў”.

Будапэштскі Мэмарандум 5-га сьнежня 1994[1], на які, відавочна, спасылаецца сп. Саньнікаў, на жаль не прадугледжвае, і ня мае на ўвазе, практычна нічога дзеля засьцеражэньня беларускага нацыянальнага сувэрэнітэту ад асаблівых гатункаў небясьпекаў, зазначаных у "віленскім" Мэмарандуме. Дакумэнт 1994 г. толькі "пацьвярджае" павагу з боку ЗША, РФ і Вялікабрытаніі да незалежнасьці і сувэрэнітэту Беларусі паводле Заключнага Акту АБСЭ, пры чым падпісанты адмаўляюцца ад пагрозы або ўжытку сілы супраць тэрытарыяльнай цэласьці (межаў) і палітычнай

[1] http://www.ppnn.soton.ac.uk/bb2/Bb2secK.pdf

незалежнасьці, або падпарадкаваньня сувэрэннай палітыкі беларускай дзяржавы сваім мэтам шляхам аказаньня эканамічнага ціску, ды абяцаюць садзейнічаць Беларусі праз мэханізмы ААН, калі яна станецца ахвярай агрэсіі.

Тым часам, кіраўніцтва Рады не атрымлівала ніякіх заўвагаў сп. Саньнікава на дасланы разам з запрашэньнем праект, пачатковая вэрсія якога таксама зьмяшчала скрытыкаваныя ім пункты падпісанага ў Вільні Мэмарандуму.

Рада БНР ізноў пацьвярджае, што застаецца адкрытай да супрацоўніцтва з беларускімі партыямі і грамадзкімі аб'яднаньнямі ў справе абароны незалежнасьці Беларусі.

**Сакратарыят Вонкавых Справаў Рады БНР**

# 2013: падзеі

- У чэрвені ў Нью-Ёрку прайшла XXVIII Сэсія Рады БНР. На Сэсіі прынятая рэзалюцыя “Аб расейскіх вайсковых базах на тэрыторыі Беларусі”.

- У ліпені ў Менску прайшоў VI Зьезд беларусаў Сьвету, у якім узялі ўдзел прадстаўнікі Рады БНР.

- У лістападзе пачынаецца востры палітычны крызіс ва Ўкраіне, які стаўся вынікам адмовы прэзідэнта Віктара Януковыча падпісаць Дамову аб асацыяцыі Ўкраіны з Эўрапейскім Зьвязам. Пасьля таго, як міліцыя разагнала нешматлікі мірны мітынг пратэсту, на Майдане Незалежнасьці ў Кіеве зьбіраюцца дзясяткі тысячаў чалавек. Спробы разгону дэманстрацыі церпяць паразу, напружанасьць імкліва нарастае. Украінскія падзеі канца 2013 г. вызначаць парадак дня ў рэгіянальнай палітыцы на наступныя гады.

- У 2013 годзе Чэхія і Вугоршчына перайшлі на эўра, а Харватыя сталася членам Эўрапейскага Зьвязу.

- Год быў адзначаны застоем у эканоміцы і палітыцы Беларусі, працягам нэгатыўных працэсаў, якія пачаліся перад гэтым.

- На канец года ў Беларусі па палітычных матывах ў турмах знаходзілася 11 чалавек: Алесь Бяляцкі, Мікола Статкевіч, Мікола Аўтуховіч, Эдуард Лобаў, Ігар Аліневіч, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Васіль Парфянкоў, Уладзь Яроменак і Андрэй Гайдукоў. На працягу года былі вызваленыя палітычныя вязьні Зьміцер Дашкевіч, Аляксандар Францкевіч, Павал Севярынец і Андрэй Пачобут.

- У 2013 годзе ня стала раднага БНР і актывіста беларускай дыяспары ў ЗША, заснавальніка і першага выдаўца ангельскамоўнага выданьня Belarusian Review Язэпа Арцюха, аднаго з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту Міхася Чарняўскага, беларускага пісьменьніка з Падляшша Сакрата Яновіча, палітычнага актывіста Віктара Івашкевіча.

# 2013: публічныя мерапрыемствы

- 18 студзеня ў памяшканьні Нацыянальнай бібліятэкі ў Празе адчынілася выстава “Невядомая Беларуская Народная Рэспубліка”, арганізаваная Эўрапейскім Гуманітарным Унівэрсытэтам пры ўдзеле прадстаўнікоў Рады БНР. Сярод экспанатаў выставы, якую стварыў радны БНР Юрась Юркевіч – выявы раней невядомых дакумэнтаў Івана і Антона Луцкевічаў, ліст Язэпа Драздовіча Віленскаму беларускаму музэю імя Івана Луцкевіча. На выставе ёсьць і матэрыялы Таварыства беларускай школы, а таксама дакумэнты, прысьвечаныя беларускай вайсковай справе 1918-1920 гг. У адкрыцьці выставы ўзяў удзел і амбасадар Літоўскай Рэспублікі ў Чэхіі Аўрымас Таўрантас.

- Сакавік: Старшыня Рады БНР падтрымала занепакоенасьць беларускіх дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, якія на сваёй нядаўняй нарадзе ацанілі тэндэнцыі ў прыватызацыі агульнанароднай уласнасьці як пагрозу эканамічнай самастойнасьці Беларусі і заявілі, што пры зьмене ўлады зьдзелкі з маёмасьцю могуць быць перагледжаныя.

- 23 сакавіка адбылася сустрэча Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы зь міністрам замежных справаў Чэхіі Карлам Шварцэнбэрґам. На сустрэчы абмяркоўвалася пытаньні скасаваньня шэнґенскіх візаў для грамадзянаў Беларусі і расейскага ўплыву на Беларусь, праблема палітычных вязьняў і пытаньне наданьня беларусам статусу нацыянальнай меншасьці ў Чэхіі.

- Івонка Сурвіла і іншыя радныя БНР узялі ўдзел ва ўрачыстым адкрыцьці новага памяшканьня Беларускае Клюбўні ў Празе

- 25 сакавіка: Івонка Сурвіла выступіла ў перадачах “Зона Свабоды” і “Свабода без гальштукаў” беларускае службы Радыё Свабода:
  - http://www.svaboda.org/content/article/24938071.html
  - http://www.svaboda.org/content/article/24939592.html

- 26 красавіка, у гадавіну аварыі на Чарнобыльскай АЭС, Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла выказалася супраць будаўніцтва атамнай электрастанцыі ў Беларусі: “*Астравецкая АЭС — гэта новая чорная хмара, якая завісьне назаўсёды над нашым краем, новая пагроза*

*выжываньню беларускага народу. Рада БНР на сваёй сэсіі яшчэ ў 2010 годзе выказала свой пратэст супраць пабудовы Астравецкай АЭС. Дарагія суродзічы, ня будзьце абыякавымі, не дазвольце, каб было зьдзейсьненае гэтае новае злачынства на беларускай зямлі!*”

- 8 траўня Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла ўзнагароджаная Мэдалём у гонар Дыямэнтавага Юбілею Каралевы Альжбеты ІІ на цырымоніі ў Канадзкім парлямэнце. *“Я маю гонар прадставіць гэтую адзнаку камусьці, хто зрабіў так шмат, каб пасеяць насеньне дэмакратыі ў Беларусі*, — сказала сэнатарка Райнэл Андрэйчук на цырымоніі ўганараваньня. — *Дэмакратыя ня прыйдзе заўтра ў Беларусь, але яна прыйдзе, і ўнёсак спадарыні Сурвілы вельмі важны ў гэтым працэсе”.*

- У траўні адбыўся візыт Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы да беларусаў Каліфорніі. На мерпарыемствах у рамках візыту таксама выступілі Першы Заступнік Старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык, амбасадар Дэвід Сўорц і прафэсар Паўліна Сурвіла.

- **2 чэрвеня ў Нью-Ёрку ў памяшканьні грамадзкага цэнтру пры царкве Сьв. Кірылы Тураўскага адбылася XXVIII сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.** Ганаровым госьцем Сэсіі быў першы амбасадар ЗША ў Беларусі Дэвід Сўорц. Былі заслуханыя справаздачы рэвізійнай камісіі, профільных Сакратароў, справаздачы Старшыні і Намесьнікаў Старшыні Рады БНР. У склад Рады прынятыя пяць новых радных. Прынята Рэзалюцыя “Аб расейскіх вайсковых базах на тэрыторыі Беларусі”. Сяргей Навумчык прызначаны Сакратаром Справаў Абароны.

- 2 чэрвеня Дэвід Сўорц, першы амбасадар ЗША ў Беларусі (1992-1994), выказаўся ў падтрымку ідэі аб тым, каб урад ЗША прызнаў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі як легітымную ўладу Беларусі.

- 26 чэрвеня Сакратар у справах інфармацыі Рады БНР Мікалай Пачкаеў пракамэнтаваў выключэньне міністра замежных справаў РБ Ўладзімера Макея са сьпісу асобаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю Эўразьвязу:

*“Тэхнічнасьць” зьняцьця са сьпісу адной асобы павінна пераканаўча дэманстравацца Эўразьвязам шляхам адначасовага ўключэньня ў той сьпіс 10-20 іншых асоб, заплямленых удзелам у палітычных рэпрэсіях і іх*

*палітычным абслугоўваньні. Гэта бы больш адпавядала прынцыпам аб пасьлядоўнасьці санкцыяў, выкладзеным у адпаведнай Заяве Рады БНР адразу пасьля падзеяў сьнежня 2010 г.”*

- 26 жніўня Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла павіншавала Ўладзімера Арлова зь юбілеем:

*“Дазвольце выказаць Вам ад імя Рады БНР глыбокую ўдзячнасьць за велізарны Ваш удзел у адраджэнскім руху Беларусі пасьля распаду Савецкага Саюзу. Ваша творчасьць трымала шмат каго з нас на духу праз многія гады нялёгкага змагарнага жыцьця. Кніга „Краіна Беларусь“ захапіла і напоўніла пачуцьцём гонару кожнага беларуса, а яе ангельская вэрсія будзе заваёўваць нам ва ўсім сьвеце сяброў, якія нам цяпер патрэбныя як ніколі”.*

- 28 жніўня Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла даслала прывітаньне Зьмітру і Насьце Дашкевічам з нагоды вызваленьня Зьмітра з палітычнага ўвязьненьня:

*“Дарагія Зьміцер і Наста, хачу выказаць вам абаім радасьць, якую адчула, пабачыўшы на сайце Радыё Свабода, што вызвалілі Зьмітра. Адначасна адчуваю вялікую крыўду да адказных за страшэнныя гады такога паважанага ўсімі намі чалавека. Жадаю вам абаім плёну ў працы і шмат шчасьлівых гадоў разам. Івонка Сурвіла”.*

- 28 верасьня Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла удзельнічала ў вечары, арганізаваным у Лёндане ў гонар Лёлі Міхалюк, шматгадовай ганаровай Старшыні Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. У яе прамове адзначалася:

*“Вельмі ганаруся, што спадарыня Лёля ёсьць сяброўкай Рады БНР, і вітаю яе ад усіх радных. Дарагая Лёля, Тваёю адданасьцю, Тваёю любоўю да ўсяго беларускага, шляхотнасьцю Твае душы Ты ёсьць прыкладам для нас усіх. Край наш будзе жыць так доўга, як у нас будуць людзі такія, як Ты. Людзі, якія будуць памятаць, хто яны. Людзі, якія будуць ведаць, што яны ёсьць носьбітамі стагодзьдзяў генаў беларушчыны і адчуваць патрэбу бараніць яе.”*

- 1 сьнежня Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла накіравала віншаваньне Згуртаваньню Беларусаў Канады з нагоды 65-годзьдзя арганізацыі.



Сяргей Навумчык і Івонка Сурвіла на адкрыцьці
Беларускай Клюбоўні ў Празе разам зь Вінцуком Вячоркам
і Ўладзімерам Барадачом



Сустрэча зь Міністрам замежных справаў Чэхіі Карлам Шварцэнбэргам



Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла на “Радыё Свабода”, сакавік 2013 г.



Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла і Першы Заступнік Старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык на сьвяткаваньні 95-х угодкаў БНР у Празе разам з Уладзімерам Арловым і Вінцуком Вячоркам, сакавік 2013 г.




Першы амбасадар ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Дэвід Сўорц
на Сэсіі Рады БНР




Сэнатарка Райнэл Андрэйчук і Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла пасьля ўручэньня Івонцы Сурвіле Мэдаля ў гонар Дыямэнтавага Юбілею Каралевы Альжбеты II



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

6 траўня 2013 г.

**Заява Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**
**Аб недапушчальных гвалтоўных дзеяньнях у дачыненьні да Бел-Чырвона-Белага Сьцягу ў часе чэмпіянату сьвету па хакеі ў Швэцыі**

5 траўня на чэмпіянаце сьвету па хакеі ў Швэцыі асобамі ў уніформе былі ўжытыя гвалтоўныя дзеяньні супраць актывістаў арганізацыі “Беларуская нацыянальная памяць”, якія разгарнулі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг. Пры гэтым спасылаліся на нібыта палітычны характар Сьцяга.

Рада БНР сьведчыць, што Бел-Чырвона-Белы Сьцяг не зьяўляеца сымбалем якой-небудзь палітычнай партыі – ён ёсьць дзяржаўным сьцягам Рэспублікі Беларусь.

Рада БНР зьвяртае увагу, што лукашэнкаўскі рэжым зьмяніў сымболіку пасьля так званага “рэфэрэндуму” 1995 году. Менавіта гэты “рэфэрэндум” быў пачаткам татальнага наступу на законнасьць, дэмакратыю і правы чалавека. Ён быў прызначаны і праведзены з грубымі парушэньнямі Канстытуцыі і законаў Беларусі. У часе прызначэньня “рэфэрэндуму” ў залі парлямэнту групай КДБ былі жорста зьбітыя 19 дэпутатаў апазыцыі Беларускага Народнага Фронту. У часе агітацыі і галасаваньня былі зафіксаваныя парушэньні на кожным участку, дзе прысутнічалі незалежныя назіральнікі. Усё гэта дало падставы лічыць прававыя вынікі так званага “рэфэрэндуму” нелегітымнымі. Прыкметна, што вынікі гэтага “рэфэрэндуму” так і не зацьвердзіў парлямэнт, у часе кадэнцыі якога ён праводзіўся.

Акрамя тао, Бел-Чырвона-Белы Сьцяг зьяўляеца гістарычным беларускім сымбалем, і дзеяньні, якія былі прыменены на чэмпіянаце сьвету, ёсьць абразай нацыянальнага гонару і годнасьці.

Рада БНР заклікае адпаведныя органы Швэцыі правесьці расьледаваньне ў дачыненьні да асобаў у ўніформе і прыняць захады ў адпаведнасьці з законам, а Міжнародную хакейную фэдэрацыю гарантаваць павагу да дзяржаўных сымбаляў і выкананьне правоў чалавека ў часе спаборніцтваў.

Рада БНР таксама пратэстуе супраць выказаньняў старшыні Беларускай фэдэрацыі хакею спадара Яўгена Ворсіна, які ў інтэрвію журналістам дапусьціў сумнеўныя словы ў адносінах да заўзятараў з цёмным колерам скуры. Такія выказваньні, мала таго што недапушчальныя ў цывілізаваным сьвеце, але да таго ж супярэчаць самому духу алімпійскага руху, у падставе якога – расавая роўнасьць і адсутнасьць дыскрымінацыі паводле расавай ці нацыянальнай прыкметы.

## Прывітаньне Івонкі Сурвілы VI Зьезду беларусаў сьвету

Дарагія суродзічы, сябры!

Віншую з гэтым юбілейным Зьездам Беларусаў Сьвету яго арганізатараў, Управу "Бацькаўшчыны" і ўсіх прысутных на гэтай падзеі.

Прайшло дваццаць гадоў ад таго слаўнага першага Зьезду Беларусаў Сьвету, на якім змаглі яшчэ прысутнічаць шматлікія сябры дыяспары, якіх ужо няма між намі. Памятаю, зь якім захапленьнем вярнуўся тады з Беларусі мой муж Янка...

Жадаю усім беларусам сьвету, каб гэты побыт на сваёй – беларускай – зямлі таксама напоўніў вашыя сэрцы новымі сіламі, каб вы змаглі, вярнуўшыся, пасьпяхова працягваць вашую гэтак патрэбную працу на карысьць беларускага народу.

Памятайма, што будучыня яшчэ перад намі і ад нас усіх залежыць, якой яна будзе, і ці зоймем мы зноў тое пачэснае месца ў сям'і народаў Эўропы, якое займалі калісьці нашыя продкі.

У гэтым веку інфармацыі нашай найважнейшай роляй ёсьць інфармаваць сьвет пра нашую зямлю, пра наш народ, пра нашую слаўную мінуўшчыну і нашую культуру. Дазволю сабе папрасіць вас, каб вы здабылі ў Менску прынамсі па адным экзэмпляры кнігі "Краіна Беларусь" на ангельскай мове – яна шмат дапаможа вам у вашай асьветніцкай дзейнасьці. А калі ня будзе цяжка, прэзэнтуйце яе таксама вашаму дэпутату ці кангрэсмэну, а мо і прэзыдэнту ці прэм'еру краіны, у якой пражываеце.

Кожнаму эмігранту вядома, як – яшчэ нядаўна – хавалася існаваньне Беларусі ад іншага сьвету. Нашым заданьнем ёсьць паказаць сьвету, што Беларусь жыве і будзе жыць – вечна!

Беларусаў, якія маюць вялікае шчасьце жыць на сваёй зямлі, хачу папрасіць, каб яе любілі і шанавалі, і каб любілі і шанавалі цудоўную беларускую мову, якую пакінулі ў спадчыну нашыя продкі. Бо толькі мы можам выратаваць яе ад заўчаснай сьмерці! Мова – душа народу. Не дазваляйце нікому адбіраць яе ў вас! Тут дазволю сабе параіць Вам яшчэ адну кнігу: выдадзены Радыё Свабода цудоўны падручнік "Жывая мова" нядаўна адышоўшага ў лепшы сьвет Юрася Бушлякова.

Дык дапамажы вам Божа! Жадаю усім вам пасьпяховага Зьезду, і тым, хто прыехалі з замежжа, сапраўды шчасьлівага побыту на Радзіме.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвіла,**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**

**Ліпень 2013 г.**

## Незалежнасьць Беларусі была не выпадковасьцю, а вынікам сыстэмных палітычных намаганьняў

*Артыкул Першага Заступніка Старшыні Рады БНР Сяргея Навумчыка, выйшаў у часопісе Belarusian Review, Vol. 25, No. 3.*

Народы па-рознаму абвяшчаюць пра Незалежнасьць, пра нараджэньне новай краіны. У Беларусі гэта адбылося 25 жніўня 1991 году, калі Вярхоўны Савет надаў Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статус канстытуцыйнага закону і прыняў пакет рашэньняў, накіраваных на рэалізацыю незалежнасьці.

Гэтая падзея ўпарта ігнаруецца – як у Беларусі, так і заходнімі дасьледчыкамі.

У Беларусі яна замоўчваецца, паколькі рэжым Лукашэнкі арыентаваны на падтрыманьне ў грамадзкай сьвядомасьці міфу пра савецкі пэрыяд як самы сьветлы пэрыяд беларускай нацыі. А дзень 25 жніўня 1991, акрамя абвяшчэньня Незалежнасьці, адметны яшчэ і тым, што ў гэты дзень была спыненая дзейнасьць камуністычнай партыі Беларусі – членскі білет якой Лукашэнка, паводле ягонага прызнаньня, ніколі не выкідваў.

На Захадзе ігнараваньне той падзеі мае іншыя прычыны. Часам у тэкстах нават вельмі кваліфікаваных, добрасумленных заходніх дасьледчыкаў даводзіцца чытаць, што Беларусь атрымала незалежнасьць у выніку распаду СССР. Менавіта ў такой пасьлядоўнасьці: спачатку распаўся Савецкі Саюз (зразумела, па волі Ельцына), а потым Беларусь атрымала Незалежнасьць (як вынікае – зь міласьці Ельцына). Пад распадам СССР маецца на ўвазе пагадненьне, падпісанае ў Віскулях у сьнежні 1991 году. Словам, толькі ў выніку волі некалькіх палітыкаў (некаторыя называюць гэта капрызам) на мапе сьвету зьявілася новая краіна. Часта незалежнасьць Беларусі заходнія аналітыкі называюць “выпадковай”.

Такі падыход адлюстроўвае павярхоўны, стэрэатыпны падыход, які ня мае нічога агульнага з рэальнасьцю.

Па-першае, Беларусь дэ-юрэ была незалежнай краінай ужо 25 жніўня 1991 году – у такой жа ступені незалежнай, як Літва альбо Польшча. Канешне, наперадзе быў доўгі шлях адбудовы дзяржаўных інстытуцыяў, уключна з увядзеньнем сваіх грошай, стварэньнем уласнага войска – але і ў той жа Літве такі шлях не адбыўся ў адзін дзень. Іншая справа, што тагачаснае

кіраўніцтва Беларусі, ігнаруючы патрабаваньні дэпутатаў Народнага Фронту, марнавала час і гуляла ў бесперспэктыўныя гульні з Гарбачовым.

Па-другое, сам распад СССР быў вынікам тых працэсаў, якія адбываліся ў канцы 1980-пачатку 1990-ых ў былых савецкіх рэспубліках. У тым ліку і ў Беларусі, у якой палітычны авангард грамадзтва выразна патрабаваў незалежнасьці.

Незалежнасьць Беларусі была не выпадковасьцю, а вынікам сыстэмных палітычных намаганьняў. Незалежнасьць як галоўная палітычная мэта была заяўлена на Сойме БНФ у траўні 1990 году. У чэрвені таго ж году дэпутаты БНФ прапанавалі Вярхоўнаму Савету праект Дэкларацыі аб сувэрэнітэце. Дэклярацыя была прынятая 27 ліпеня 1990, але з узгадненьнем пра падпісаньне саюзнай дамовы (такім чынам, Беларусь заставалася ў складзе СССР). Таксама, Дэклярацыя прызнавала Канстытуцыю і законы СССР вышэйшымі за беларускія. Увесь год парлямэнцкая апазыцыя намагалася ад Вярхоўнага Савета надаць Дэклярацыі статус канстытуцыйнай сілы, і толькі 25 жніўня 1991 году ўдалося гэта зрабіць.

Нарэшце, ідэя вольнай, незалежнай Беларусі існавала ўвесь час на працягу 200-гадовай расейскай акупацыі, а 25 сакавіка 1918 году ажыцьцявілася ў якасьці абвяшчэньне Беларускай Народнай Рэспублікі. Стваральнікам БНР пашанцавала меней, чым палітыкам у Чэхіі ды іншых краінах, дзе ўдалося скарыстаць шанец, дадзены “вясной народаў”. Але ў жніўні 1991 году шанец быў скарыстаны.

**Brave policy thinking: the time is now**
by Mikałaj Pačkajeŭ

*Артыкул Сакратара Інфармацыі Рады БНР Мікалая Пачкаева, выйшаў у часопісе Belarusian Review, Vol. 25, No.2.*

The uneventfulness of the last several months could not have been but disappointing for anyone hoping to see the political prisoners in Belarus freed soon, and the current efforts to that end vindicated. A lack of closure to the post-December 2010 bout of political repressions means the pro-democratic community inside Belarus is still "bleeding", as some of its most prominent figures and activists remain in jail, while others have been effectively forced out of public life or have had to leave the country. This brings home the question whether the current scope of the EU and US measures – intended primarily to discourage Lukashenka from brutality against his political opponents – has been quite adequate for the purpose. However, if a positive side is to be found to an impasse, it should be precisely in motivating the policy planners to come up with new brave designs to start solving those problems that clearly won't just go away. An impasse should also encourage the policy-makers to contemplate raising the stakes, aiming to achieve a good and long-term solution. This would mean a bold vision of a future for Belarus: its transformation from the infamy of "the last dictatorship of Europe" into a central factor for a positive sea-change at the core of the East-European post-USSR region. Now is the time for the democratic international community to accumulate sufficient political will for new comprehensive policy measures to assist the pro-democratic community in Belarus to rescue the country from the clutches of tyranny, for the sake of Belarus as well as that of the whole region on the EU's eastern borders.

The Rada of the Belarusian Democratic Republic, as the Belarusian historical state institution in Exile, held its own discussions at its general session on June 1, 2013, in New York. For the Rada, its benchmark is based on principles of the 1918 Belarusian Democratic Republic: an independent democratic Belarus. But as history unfolds, the Rada's responses to how it can best contribute to achieving these objectives require continuous fine-tuning. It is certain that democracy can only come to Belarus from within. On the other hand, there is a growing recognition that – following nearly two decades under Lukashenka's rule, and given the uncertainty about how exactly his regime will meet its end – the Rada might also be called to serve the democratic society in Belarus in roles other than those found just in the Rada's recent exile history.

The state of democracy and human rights is by far the most widely-recognized of Belarus's problems. Less universally understood is the issue of how the state of democracy in Belarus was interlinked with Belarus being the Belarusian nation-state, and then how Lukashenka's policy of suppressing its "Belarusness" was instrumental in replacing a nascent democracy with his neo-Soviet regime of personal power. In this issue of the BR the readers will find a useful account of how it were the Belarusian national symbols and the status of the Belarusian language – and not e.g. the parliamentary prerogatives – that became Lukashenka's first target for assault in 1995. That also signified his leadership's first major break with the constitutional legitimacy of Belarus, as well as its first exercise in conducting heavily controlled referendums.

The announcement of plans for a Russian fighter-bomber airbase in Belarus is a new concern. Conceding a significant share of control over the Belarusian national security directly to Russia should appear problematic for Lukashenka himself. If Russia was to gain such a military asset in Belarus, the role of the armed forces under Lukashenka's command – as a proxy guard of Russia's western defense frontiers – would only diminish, and so would the military-political indispensability of Lukashenka for Russia. The main problem, however, will arise for any future government trying to pursue the national interests of Belarus. A Russian military foothold would likely be perceived as a factor undermining the option of political integration into the European and Euro-Atlantic community of democratic nations, and so effectively limiting the sovereign freedom of policy choice for Belarus in the future. The BNR Rada session passed a resolution ruling the placement of Russian military bases in Belarus unacceptable. Recognizing that military, security and defense aspects have been steadily gaining in importance for the country's situation, the President of the Rada announced the appointment of Mr Siarhiej Navumčyk (Prague) as the Secretary of Defense.

One unusual aspect of the last BNR Rada session was the address by the former US ambassador in Belarus David Swartz. Ambassador Swartz was the only member of the Western diplomatic community who 16 years ago recognized the importance of the BNR Rada for Belarus following Lukashenka's takeover (David H. Swartz. "Belarus Democracy Continues In Diaspora", The Belarusian Review, Spring 1997). Now he has presented a position arguing that the U.S. government should recognize the BNR Rada as the legitimate authority of Belarus, instead of Alexander Lukashenka's government.

During the following brief exchange of views it was e.g. recalled that as early as October 18, 1918, the BNR Rada — still incumbent in Belarus — directed a formal appeal to the president of the United States, asking him to recognize the sovereignty of the Belarusian Democratic Republic and its democratic

government, thus averting the imminent end of their existence. That call went unanswered. The consequences were stark: the occupying Germans, even as they began retreating, refused to arm the Belarusian government, not recognized by any of the victorious Great Powers. Six weeks later, the Rada had to abandon Belarus' capital; on December 10, 1918 it was invaded by Soviet Russia's Red Army. It's a pity that at that time there were no sympathetic American voices supporting an independent democratic Belarus and the BNR Rada.

The Rada voted to approve ambassador Swartz's position. Belarus has developed a problem unique in today's Europe, which would all too likely require atypical remedies. The Rada President's subsequent comment on ambassador Swartz's statement (also available in this issue of BR) demonstrates that the Rada is immediately capable to formulate specific policy principles for its mission in that capacity — already at this very early proposal stage. Ambassador Swartz's proposal is radical: but – as it is highly unclear what the circumstances of Lukashenka regime's final decline and downfall will be – it would not be prudent to discard any option as unthinkable. The Rada, with its original mandate to set up a democratic system in Belarus, would be uniquely positioned to provide unselfish leadership, relying on the support and co-operation from a wide range of pro-democratic forces in Belarus poised to benefit from its work. As a recognized sovereign entity, it would also be able to mobilize resources sufficient to see through the transition, supervising free elections and overseeing the re-establishment of democracy in Belarus, thus completing its historical mission. A democratically elected authority in Belarus taking over as the Rada lays down its mandate is what should have happened, in more fortunate historical circumstances, back in 1918: 95 years later probably it still has to.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

18 кастрычніка 2013 г.

**Заява Прэзыдыюму Рады БНР аб санкцыях супраць вінаватых у парушэньні правоў чалавека ў Беларусі**

Прэзыдыюм Рады Беларускай Народнай Рэспублікі,

Зважаючы, што пануючыя ўлады Рэспублiцы Беларусь далей трымаюць за кратамi палiтычных вязьняў, не адбылося рэабiлiтацыi па палiтычных прысудах, не праведзеныя свабодныя выбары, не расьследаваны зьнiкненьнi палiтычных працiўнiкаў А. Лукашэнкi, грамадзтва застаецца ў атмасфэры страху палiтычных рэпрэсiяў, i гэтак ня выкананыя нiякiя патрабаваньнi дэмакратычнага грамадзтва Беларусi i не пазбаўленыя актуальнасьцi прычыны, зь якiх Эўрапэйскi Зьвяз увёў абмежавальныя меры супраць уладаў Рэспублiкi Беларусь:

- спасылаючыся на Рашэньне Рады Эўрапэйскага Зьвязу 2012/642/CFSP ад 15 кастрычнiка 2012 аб працягу дзейнасьцi абмежавальных мераў супраць інтарэсаў рэжыма А. Лукашэнкi, тэрмiн якiх выцякае 31 кастрычнiка 2013 году,

- прыгадваючы Зварот Рады БНР ад 28 сьнежня 2010 году, дзе заяўлялася:

"Рада БНР зьвяртаецца да ўрадаў краiнаў Эўрапэйскага Зьвязу, Злучаных Штатаў Амэрыкi, Канады, Украiны, Турэччыны i Эгiпту з заклiкам забаранiць уезд на тэрыторыю гэтых краiнаў супрацоўнiкам КДБ i iншых спэцслужбаў, сыстэмы мiнiстэрства ўнутраных спраў, судоў i пракуратуры Рэспублiкi Беларусь, а таксама членам iх сем'яў. Рада БНР разглядае вышэйназваныя структуры як рэпрэсiўны мэханiзм, якi скарыстоўваецца супраць актывiстаў дэмакратычнай апазыцыi. Рада БНР прапануе, каб гэтая забарона на ўезд дзейнiчала да моманту вызваленьня апошняга ў

Беларусі палітычнага вязьня і скасаваньня усіх крымінальных і адміністрацыйных спраў у дачыненьні да асоб, якіх перасьледуюць за іх палітычную пазыцыю”;

- Заклікае ў беларускай палітыцы і грамадзтве прыхільнікаў мэты аднаўленьня дэмакратычнага ладу і справядівасьці заняць кансалідаваную прынцыповую пазыцыю ў падтрымку комплексных мераў дзеля найхутчэйшага спыненьня рэпрэсіяў, аднаўленьня справядлівасьці і дэмантажу рэпрэсіўнага апарату, а таксама правядзеньня свабодных выбараў, дзеля ўмацаваньня палітычных гарантыяў незалежнага дзяржаўнага існаваньня беларускага народа ад адвольных дзеяньняў рэжыма, які пазбавіў сябе мэханізмаў палітычнай адказнасьці перад нацыяй;

- заклікае Раду Эўрапэйскага Зьвязу ўзнавіць дзеяньне абмежавальных мераў, пералічаных у рашэньні Рады Эўрапэйскага Зьвязу 2012/642/CFS, у поўным аб'ёме і без увагі на адмысловыя выключэньні, зробленыя напрацягу году,

- заклікае да першачарговага пашырэньня сьпісу асобаў пад дзеяньнем абмежавальных мераў коштам таксама тых, чыё заангажаваньне ў рэпрэсіях і іншай дзейнасьці на карысьць захаваньня нелегітымнага кіраваньня А. Лукашэнкі было задакумэнтаванае ў пэрыяд пасьля падзеяў, зьвязаных з выбарамі 19 сьнежня 2010 году.

## Зварот Старшыні Рады БНР з нагоды Дня Герояў – 2013

Дарагія Суродзічы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю Вас з угодкамі Слуцкага Збройнага Чыну – Днём Герояў Беларусі.

Кожны год, мы сьвяткуем гэты восенскі дзень, каб прыпомніць і аддаць чэсьць тым адважным Случчакам,якія ўзялі на сябе заданьне абараніць сваю зямлю ад бальшавіцкай навалы.

Дарагія Суродзічы! Случчакі жывуць таму, што мы іх памятаем. А таму, што мы іх памятаем, і мы жывем! Жыве Беларусь!

Усе мы ведаем пра ролю памяці ў жыцьці кожнага народу.

У канадскай правінцыі Квэбэк, дзе я жыву, народным дэвізам ёсьць "Je me souviens!" - "Я памятаю!"

Нашую памяць акупанты стараліся выкараніць на працягу двух стагодзьдзяў, бо ведалі, што без памяці народ памрэ. Аднак нашая нацыянальная сьведамасьць, па якой і свае і чужыя няраз адпраўлялі паніхіды, перамагла ўсе спробы генацыду. Памяцьцю мы даказалі нашую жыцьцяздольнасьць.

Апошняя надзея нашых ворагаў – выкараніць з памяці народу беларускую мову. Не ведаю як Вам, але мне падаецца, што і тут яны прайграюць! Я веру, што і тут пераможа нашая генетычная памяць, бо наш народ не адмовіцца ад жыцьця.

Выратуем мы і нашую цудоўную мову.

Жывуць Случчакі!
Жыве Беларусь!
Будзе жыць беларуская мова! Бо мы памятаем!

**Івонка Сурвіла**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**
Лістапад 2013



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

14 сьнежня 2013 г.

**Заява Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**
**ў падтрымку абаронцаў свабоды Украіны**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі вітае памкненьне украінскага народу да свабоды і дэмакратыі і выказвае захапленьне мужнымі абаронцамі Майдану, усімі, хто выйшаў адстойваць свае права на годнае жыцьцё. Рада БНР выказвае салідарнасьць з грамадзянамі Беларусі, якія прыехалі ў Кіеў, каб прадэманстраваць падтрымку украінскаму народу.

Сёньня відавочна, што мільёны людзей на вуліцах гарадоў Украіны – гэта ня толькі прадстаўнікі пэўных палітычных сілаў, гэта – сам украінскі народ, у ягоным сьвятым памкненьні да свабоды, да справядлівасьці і да права самому вырашаць свой лёс. У 2004 годзе Рада БНР выказала сваю падтрымку тым, хто абараняў на Майдане свае права дэмакратычна абіраць уладу; сёньня мы падтрымліваем тых, хто зрабіў эўрапейскі выбар.

Рада БНР вітае рашэньні дэпутатаў Эўрапарлямэнту пра больш хуткае падпісаньне асацыяцыі з Украінай, а таксама прапановы эўрадэпутатаў да міжнародных фінансавых арганізацыяў эканамічна спрыяць Украіне. Рада БНР асуджае выкарыстаньне Масквой мэтадаў палітычнага і эканамічнага ціску на Кіеў.

Адначасна, лічым недапушчальным ужываньне ўкраінскімі ўладамі сілы супраць удзельнікаў масавых народных акцыяў у Кіеве і ў іншых украінскіх гарадах. Прымяненьне такіх мэтадаў пагражае скінуць Украіну з цывілізаванага шляху разьвіцьця.

Мы верым, што народ Украіны, народ слаўнай гісторыі і багатай культуры, абароніць свае права быць у шэрагу эўрапейскіх цывілізаваных народаў. Мы верым, што зойме свае месца ў гэтым шэрагу і Беларусь.

Слава Украіне! Жыве Беларусь!

## Навагодняе віншаваньне Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы

Дарагія Суродзічы!

Віншую вас з надыходзячымі Сьвятамі Божага Нараджэньня і з Новым 2014 Годам, і жадаю вам усяго найлепшага. З глыбіні сэрца жадаю, каб «Уладар вялікіх сонцаў» паслаў «праменьне Свае хвалы» на наш прыгожы край.

Адначасна, хачу падзяліцца з вамі словамі Альбэрта Эйнштэйна, якія мяне моцна ўразілі. Эйнштэйн казаў, што «сьвет ёсьць небясьпечным ня столькі дзеля тых, што робяць зло, як дзеля тых, што глядзяць на гэта і не рэагуюць». Прыстасаваўшыся да абставінаў, яны глядзяць абыякава на пакуты ахвяраў злачынстваў, у спадзяваньні што зло зьнікне само сабой.

На парозе Новага Году, зьвяртаюся да вас, дарагія суродзічы, з просьбай задумацца над гэтымі словамі Альбэрта Эйнштэйна.

Хто будзе вас бараніць, калі вам зробіцца нязносным зьдзек над вамі і над вашымі дзеткамі з боку нялюдзкага рэжыму? У гісторыі ня раз бывала, што людзі прачыналіся запозна. Ня будзьце ж абыякавымі да таго, што робіцца вакол вас. Далучайцеся да тых, хто бароніць вашае права жыць у свабодзе.

Расейскія вайсковыя базы, якія зробяць вас ахвярамі любога ваеннага сутыкненьня, АЭС, якая будуецца чужымі рукамі на чужую карысьць, бюджэтныя зьмены на карысьць сілавых структур за кошт аплаты патрэбаў рэшты насельніцтва ды разьвіцьця нашае культуры і захаваньня нацыянальнае спадчыны, замена беларускага насельніцтва на іншародных прыхадняў – так як гэта ўжо рабіла Маскоўская імпэрыя – усё гэта прычыны, каб ня быць абыякавымі. Але пачаць можна ад найбольш відавочнага. Колькі часу яшчэ шматвекавы эўрапейскі народ будзе талераваць, каб ягоны край называлі апошняй дыктатурай Эўропы? Колькі часу яшчэ трэба будзе чакаць, каб у Беларусі не было палітвязьняў і чуць абразы пад іх адрасам, што маўляў гэта звычайныя злачынцы? Кожны грамадзянін Беларусі мае права вымагаць, каб яго трактавалі, як чалавека, а абавязак грамадзтва ёсьць яго падтрымаць.

Дарагія Суродзічы, яшчэ раз жадаю, каб гэты год быў для вас памысным і плённым. Я моцна веру, што з Божай дапамогай, разам, і мы зможам

дасягнуць мэту кожнага разьвітага народу – заняць пачэснае месца ў сям'і чалавецтва.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвіла**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**




Каляды 2013

Дарагія Сябры!
Віншую Вас са Сьвятам:
і жадаю Вам шчасьця,
здароў'я і усяго найлеп-
шага ў Вашым жыцьці.
За сьвяточным сталом
буду разам з Вамі прасіць
Бога каб дапамог нам
абараніць нашу мілую
Беларусь ад усяго што
пагражае яе будучыні.

Івонка Сурвіла

svaboda.org (RFE/RL)

# 2014: падзеі

- Галоўныя падзеі года былі зьвязаныя з Украінаю і вострым палітычным крызысам, у якім яна апынулася ў канцы 2013 года.

- У другой палове студзеня і лютым украінскі палітычны крызіс дасягнуў свае кульмінацыі. Улада паспрабавала ўвесьці пакет рэпрэсіўных законаў, якія істотна абмяжоўвалі свабоду слова і сходаў. Вулічнае процістаяньне ў цэнтры Кіева паміж дэманстрантамі і міліцыяй вылілісь ў кровапраліцьце. Сярод першых пратэстоўцаў, забітых у Кіеве, быў беларус Міхаіл Жызьнеўскі. У канцы лютага Вярхоўная Рада Ўкраіны афіцыйна адхіліла ад пасады прэзыдэнта Віктара Януковыча, які перад гэтым зьбег у Расею.

- У адказ на паразу рэжыма Януковыча і перамогу ва Ўкраіне проэўрапейскіх сілаў, Расейская Фэдэрацыя ажыцьцявіла ўзброены захоп і анэксію ўкраінскай паўвыспы Крым. У Данэцкай і Луганскай абласьцях Украіны пры актыўнай матар’яльнай і вайсковай падтрымцы Расеі ўтварыліся дэ-факта падкантрольныя Расеі тэрарыстычныя сэпаратысцкія групоўкі “ДНР” і “ЛНР”, якія ўсталявалі свой кантроль над значнай тэрыторыяй. На Ўсходзе Ўкраіны распачалася паўнамаштабовая вайна паміж украінскім войскам і групоўкамі сэпаратыстаў, актыўна падтрыманымі расейскім рэгулярным войскам. Міжнародная супольнасьць адзінагалосна асудзіла агрэсіўныя дзеяньні Расеі. Шэраг краінаў увёў санкцыі супраць кіраўніцтва РФ і найбуйнейшых расейскіх дзяржаўных кампаній.

- Дзясяткі неабыякавых беларусаў далучыліся да ўкраінскіх батальёнаў і пад бел-чырвона-белымі сьцягамі ваююць на ўсходзе Ўкраіны.

- Афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь паспрабавалі атрымаць уласную карысьць ад украінскага крызысу: на працягу года актывізаваліся кантакты рэжыма Лукашэнкі з краінамі Захада. Менск стаў пляцоўкай для міжнародных перамоваў пра замірэньне ва ўсходняй Украіне. У адносінах з Расеяй афіцыйны Менск чаргуе

мілітарысцкія заявы з дэманстраваньнем ляяльнасьці, падпісаньне чарговых інтэграцыйных пагадненьняў з гандлёвымі войнамі.

- У чэрвені ўлады вызвалілі палітычнага вязьня Алеся Бяляцкага. На канец году за кратамі заставаліся палітвязьні Мікалай Статкевіч, Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Арцём Пракапенка, Яўген Васьковіч. За год сьпіс палітычных вязьняў папоўніў Юры Рубцоў, асуджаны на 1 год і 6 месяцаў абмежаваньня волі пасьля арышту за нашэньне майкі з заклікам да адстаўкі А. Лукашэнкі.

- У 2014 годзе Латвія перайшла на эўра. Украіна, Грузія і Малдова падпісалі Дамовы аб асацыяцыі з Эўрапейскім Зьвязам.

- У гэтым годзе ня стала літаратараў Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна, раднага БНР Юркі Станкевіча, члена Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XXII скліканьня Барыса Гюнтэра, дыплямата Міхаіла Марыніча.

# 2014: публічныя мерапрыемствы

- 16 студзеня амэрыканскі Wartburg College і Цэнтар дасьледваньняў Беларусі (Center for Belarusian Studies) правялі канфэрэнцыю, прысьвечаную праблемам дэмакратызацыі Беларусі. На канфэрэнцыі выступілі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, былы Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч і першы амбасадар ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Дэвід Сўорц.

- Сакавік: у Лёндане адбылася выстава "Невядомая Беларуская Народная Рэспубліка", арганізаваная Эўрапэйскім Гуманітарным Ўнівэрсытэтам. На адкрыцьці выставы выступіў Сакратар Інфармацыі і Заступнік Сакратара Вонкавых Справаў Рады БНР Мікалай Пачкаеў. Мерапрыемства адбылося ў якасьці вечаровай сэсіі канфэрэнцыі "Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі" ў University College London.

- Жнівень: у Нью-Ёрку адбылася 31-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, у якой узялі ўдзел Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла і іншыя прадстаўнікі Рады.

- 9 верасьня 2014: Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла выступіла на мітынгу супраць палітыкі Расеі адносна Ўкраіны, які адбыўся перад канадыйскім парлямэнтам у Атаве. У сваім выступе Старшыня Рады БНР заклікала міжнародную супольнасьць на фоне канфлікта ва ўсходняй Украіне не забывацца і на праблемы Беларусі.

- 14 сьнежня Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла падпісала зварот да ЭГУ разам зь беларускімі грамадзкімі дзеячамі:

*Эўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт — тая навучальная ўстанова, зь якой беларускае грамадзтва заўсёды зьвязвала свае надзеі на падрыхтоўку нацыянальнай эліты.*

*Сёньня ЭГУ стаіць перад надзвычай важным выбарам – новага рэктара, ад якога будуць залежаць шляхі разьвіцьця ўнівэрсытэта.*

*Заклікаем захаваць "беларускае сэрца" ЭГУ.*

*Заклікаем абраць рэктарам ЭГУ грамадзяніна Беларусі.*

- 15 сьнежня пры падтрымцы Рады БНР выйшаў пераклад кнігі беларускага палітыка і былога палітвязьня Паўла Севярынца "Люблю Беларусь" на чэскую мову. На прэзэнтацыі кнігі ў Доме нацыянальных меншасьцяў у Празе прысутнічалі экс-міністар замежных справаў Карэл Шварцэнбэрґ, дэпутаты Эўрапейскага Парлямэнту ад Чэхіі Ярамір Штэтына і Павэл Свобода. Кнігу "Люблю Беларусь" Павал Севярынец напісаў падчас свайго ўвязьненьня па палітычна матываваным прысудзе беларускага суда.



На канфэрэнцыі, прысьвечанай Беларусі, у Wartburg College, студзень 2014 г.: Амбасадар Дэвід Сўорц, праф. Паўліна Сурвіла, Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, былы старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслаў Шушкевіч, прэзыдэнт Wartburg College Дэрэл Колсан з жонкай Крысты Колсан



Студэнцкі хор Wartburg College выконвае беларускі духоўны гімн "Магутны Божа" на беларускай мове




Сакратар Інфармацыі Рады БНР Мікалай Пачкаеў на адкрыцьці выставы
пра Беларускую Народную Рэспубліку ў Лёндане, сакавік 2014 г.




Павал Севярынец на прэзэнтацыі чэскага перакладу кнігі
"Люблю Беларусь" у Празе




Івонка Сурвіла выступае на дэманстрацыі ў падтрымку Ўкраіны ў Атаве




На сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, верасень 2014 г.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

23 студзеня 2014 г.

**Рада БНР выказвае заклапочанасьць у сувязі з сутыкненьнямі ў Кіеве**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі выказвае сваю заклапочанасьць у сувязі з гвалтоўнымі сутыкненьнямі ў Кіеве, падчас якіх быў забіты беларус Міхаіл Жызьнеўскі.

Дзеяньні ўладаў, якія прыводзяць да забойства ўдзельнікаў вулічных дэманстрацый, нічым ня могуць быць апраўданыя.

Сьмерці актывістаў "Эўрамайдана" павінны быць пільна і празрыста рассьледваныя, а адказныя асобы павінны быць прыцягнутыя да адказнасьці ў адпаведнасьці з законам.

Рада БНР выказывае сваю салідарнасьць і падтрымку ўкраінскаму народу, які змагаецца за свабоду і дэмакратыю супраць дыктатуры, беззаконьня і нэаімпэрыялізма. Супраціў украінскага народа спробам усталяваньня аўтарытарнага рэжыма дае надзею на вызваленьне ад дыктатуры ўсім народам нашага рэгіёна, і асабліва беларусам.

За нашу і вашу свабоду!



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

1 сакавіка 2014 г.

**Заява Рады БНР аб нападзе на Аляксея Шыдлоўскага за Бел-Чырвона-Белы Сьцяг**

28 лютага ў Празе ў часе матчу Кантынэнтальнай Хакейнай Лігі за ўжываньне беларускага нацыянальнага Бел-Чырвона-Белага Сьцяга быў зьбіты палітычны ўцякач Аляксей Шыдлоўскі. Пасьля матчу, вяртаючы Сьцяг, ахова стадыёна патлумачыла свае дзеяньні патрабаваньнем арганізатараў матчу, афіцыйнага прадстаўніка "Газпрому" і беларускага чыноўніка.

Бел-Чырвона-Белы Сьцяг быў дзяржаўным сымбалем Рэспублікі Беларусь з 1991 па 1995 гг., гэты ягоны статус быў скасаваны Лукашэнкам праз зьбіцьцё дэпутатаў апазыцыі Беларускага Народнага Фронту непасрэдна ў залі парламэнту і правядзеньне нелегітымнага рэфэрэндуму. Рада БНР, незалежніцкія сілы ў Беларусі і сёньня ўважаюць гэты Сьцяг у якасьці дзяржаўнага сымбалю краіны; Сьцяг зьяўляецца сымбалем супрацьстаяньня прамаскоўскай дыктатуры. За яго выкарыстаньне ў Беларусі арыштоўваюць і судзяць.

Адным зь першых, хто быў рэпрэсаваны за Бел-Чырвона-Белага Сьцяг, быў Аляксей Шыдлоўскі. У жніўні 1997 ён быў арыштаваны і асуджаны на паўтары гады пазбаўленьня волі. У 2008 годзе ён атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі, дзе далучыўся да дзейнасьці беларускай дыяспары.

Выклікае зьдзіўленьне, што ў часе спартовага спаборніцтва ў Чэхіі, краіне, вядомай сваімі дэмакратычнымі традыцыямі і змаганьнем супраць савецкай акупацыі 1968 году, дзейнічаюць не законы гэтай краіны – сябра Эўрапейскага Зьвязу, а загады прадстаўнікоў пракрамлёўскай газавай кампаніі і дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі.

Рада БНР заўсёды высока ацэньвала чэскую традыцыю салідарнасьці зь незалежнай Беларусьсю, закладзеную яшчэ Томашам Гарыгам

Масарыкам. Беларуская грамадзянская супольнасьць адчувае гэтую падтрымку і сёньня. Тым больш прыкрым ўяўляецца інцыдэнт, які адбыўся з беларускім палітычным уцекачом Аляксеем Шыдлоўскім.

Рада БНР зьвяртаецца да адпаведных дзяржаўных органаў Чэскай Рэспублікі з настойлівай просьбай даць належную прававую ацэнку парушальнікам гарантаваных заканадаўстам правоў актывіста беларускай дыяспары. Рада БНР спадзяецца, што ў далейшым падобных дзеяньняў у дачыненьні да беларускага нацыянальнага сымбалю на тэрыторыі Чэскай Рэспублікі ня будзе.

Мы таксама нагадваем, што ў часе чэмпіянату сьвету па хакеі 2014 года, які мае адбыцца неўзабаве ў Менску, дыктатарскі рэжым Лукашэнкі ня ў стане гарантаваць як спартоўцам, гэтак і заўзятарам выкананьня іх правоў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

3 сакавіка 2014 г.

**Заява Рады БНР з нагоды небясьпекі збройнага канфлікту на тэрыторыі Ўкраіны**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі,

· Зважаючы на разьвіцьцё палітычна-ваеннай сітуацыі ў адносінах Расеі і Украіны, зь якімі мае супольныя межы Беларусь;

· Беручы пад увагу дзьвубаковыя і шматбаковыя міжнародна-дамоўныя абавязкі Беларусі, а таксама абавязкі, прынятыя ад імя Беларусі ўладамі пад кіраўніцтвам А. Лукашэнкі;

· З увагі на найвышэйшыя інтарэсы Беларусі ў захаваньні сваёй нацыянальнай бясьпекі, у тым ліку аднаўленьне ў сваім рэгіёне становішча, якое выключае паўстаньне вайны;

· Вітаючы поступ украінскага народу да дэмакратыі, асацыяцыі з дэмакратычнай супольнасьцю эўрапейскіх нацыяў, і ў пазбаўленьні украінскім грамадзтвам ад наступстваў савецкага панаваньня і ў супрацьстаяньні пост-савецкай карупцыі;

· На ўнёсак Сакратарыяту Вонкавых Спраў і Сакратарыяту для справаў Абароны:

1) Вітае і цалкам падтрымлівае захады Украіны па захаваньні тэрытарыяльнай цэласьці і сувэрэнітэту перад абліччам збройнай агрэсіі.

2) Сьцьвярджае, што, праводзячы палітыку збройных авантураў, кіраўніцтва Расейскай Фэдэрацыі засьведчыла, што Расейская Фэдэрацыя пры яе сучаснай палітычнай рэчаіснасьці ня здольная быць партнэрам у абарончым саюзе, які спрыяў бы нацыянальнай бясьпецы Беларусі. З увагі на гэта і дзеля выкананьня Арт. 18 Канстытуцыі РБ, уважае неабходным

неадкаладна прыпыніць дзеяньне і выйсьці з усіх угодаў з Расеяй у ваенна-палітычнай галіне.

3) Выражае заклапочанасьць з гуманітарных наступстваў збройных авантураў Крамля для народа Расейскай Фэдэрацыі.

4) Заклікае ўрады краін-падпісантаў Будапэштцкага мэмарандуму 1994 г. забясьпечыць выкананьне запэўненьняў бясьпекі, дадзеных Украіне, а таксама заклікае ўрады ўсіх краінаў-падпісантаў іншых датычных двухбаковых і шматбаковых дамоваў, Арганізацыю Аб'яднаных Нацыяў і ўсе датычныя міжнародныя арганізацыі, выканаць свае абавязкі, што неабходна для захаваньня ад разбурэньня самой сыстэмы міжнароднага права, утворанай пасьля 1945 г.

5) Выказвае засьцярогі адносна статусу і дастатковасьці Будапэшцкага мэмарандуму 1994 г. аб гарантыях бясьпекі для Беларусі. Заклікае ўсе беларускія палітычныя сілы на Бацькаўшчыне і ў замежжы далучыцца і засяродзіць працу на мэтах Мэмарандуму нарады старшыняў і кіраўнікоў беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў са Старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі "Аб захадах для забесьпячэньня незалежнасьці Беларусі" ў Вільні 3 лістапада 2012 г.

6) Зьвяртае ўвагу на небясьпеку для нацыянальных інтарэсаў Беларусі палажэньняў аб рэжыме зьнешніх межаў Эўразійскага мытнага саюзу, якія могуць быць ужыты Расеяй у якасьці інструмэнта эканамічнага або ваенна-палітычнага ціску ў канфлікце з трэцімі бакамі насуперак уласным інтарэсам Беларусі.

7) Заяўляе пра неабходнасьць расьследваньня і прыцягненьня да адказнасьці службовых асобаў, незалежна ад дзяржаўнай прыналежнасьці, за міжнародныя злачынствы супраць міру і падрыхтоўку ці замах на зьдзяйсьненьне гэткіх. Выражае заклапочанасьць часам і зьместам нядаўняга тэрміновага разгляду ўладамі начале з А. Лукашэнкам новай рэдакцыі закону аб вайсковым становішчы.

8) Сьцьвярджае, што наданьне прытулку або грамадзянства асобам, якія знаходзяцца ў вышуку Украінай за злачынныя дзеяньні падчас пратэстаў 2013-2014 гг., не павінна захоўваць юрыдычнай моцы і такія асобы павінны падлягаць экстрадыцыі новымі ўладамі Беларусі па спрошчанай працэдуры.

9) Асабліва засьцерагае пануючыя ў Беларусі ўлады ад любога наўпростага ці ўскоснага ўдзелу у расейскай збройнай авантуры супраць

Украіны, у тым ліку праз дапушчэньне выкарыстаньня Расеяй беларускай паветранай прасторы. Службовыя асобы, якія бы санкцыянавалі рашэньні аб адваротным, павінны будуць быць прыцягнуты да адказнасьці за саўдзел у міжнародных злачынствах: злачынствах супраць міру, а таксама любых ваенных злачынствах, якія ў выніку імаверна могуць быць зьдзейсьнены расейскім бокам. Такія службовыя асобы будуць таксама несьці асабістую крымінальную і грамадзянскую адказнасьць за наступствы для юрыдычных і фізычных асоб у Беларусі ў выніку любога ўдзелу Беларусі ў ваеннай авантуры Расеі.

Рада БНР будзе вітаць адпаведныя дзейсныя меры міжнароднай супольнасьці па забесьпячэньні тэрытарыяльнае цэласьці і сувэрэнітэту Украіны.

Рада ўважае, што беларусы, якія вырашылі бы асабіста зрабіць любы ўнёсак у гуманітарную дапамогу ўсім пацярпелым ва Ўкраіне, а таксама любы ўнёсак у падтрымку высілкаў украінскай дзяржавы па захаваньні сувэрэнітэта і адбіцьцю агрэсіі, будуць дзейнічаць таксама і накарысьць доўгатэрміновых інтарэсаў нацыянальнай бясьпекі Беларусі.

## Даклад раднага БНР Янкі Запрудніка на сьвяткаваньні 96-х угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі

## Нью-Ёрк, 23 сакавіка 2014 г.

Беларуская Народная Рэспубліка мае свой юрыдычны пачатак у трох устаўных граматах, апублікаваных Выканаўчым Камітэтам Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду.

Зьезд гэты, у якім ўзяло ўдзел 1915 дэлегатаў, быў скліканы ў сьнежні 1917 году. Пасьля колькіх дзён працы зьезду расейскія бальшавікі разагналі яго сілаю зброі. Ад імя гэтага форуму далей гаварыў выканаўчы ці, як тады казалася, спаўняючы камітэт. Камітэт выдаў у лютым і сакавіку 1918 году тры ўстаўныя граматы*, у якіх сьцісла выкладзены ідэі й прынцыпы Беларускай Народнай Рэспублікі.

Першая Ўстаўная Грамата была зваротам-заклікам “Да народаў Беларусі”. У ім казалася:

“Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самавызначэньне”.

Выканаўчы Камітэт абвесьціў таксама, што “да скліканьня на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму” “часовую ўладу ў краю будзе зьдзеясьняць створаны намі Народны Сакратарыят Беларусі”.

Наступным эпахальным дакумэнтам сталася праз два з палавінаю тыдні, 9-га сакавіка 1918 году, Другая Ўстаўная Грамата, якую можна назваць зародкам канстытуцыі Беларускай Народнай Рэспублікі. У ёй сказана, што гэта — “пастанова аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў”. У грамаце восем ляканічных параграфаў, у першым зь іх чытаем:

“Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай”.

Пяты параграф абвяшчаў дэмакратычны лад Рэспублікі:

“свабоду слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўную свабоду сумленьня, незачэпнасьць асобы й памешканьня”.

І ўрэшце раніцай 25 сакавіка 1918 году, пасьля ўсяночных напружаных дэбатаў, была прынятая Трэцяя Ўстаўная Грамата – акт аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі зь ягоным трыюмфальным сказам:

“Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнай і Вольнай Дзяржавай”.

Гэтак вось 96 гадоў таму ўжыцьцёвілася, афармілася палітычна й юрыдычна, зароджаная яшчэ ў другой палавіне 19-га стагодзьдзя ідэя дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Тры Ўстаўныя Граматы Выканаўчага Камітэту Першага Ўсебеларускага Зьезду — гэта асноўныя дакумэнты беларускай палітычнай гісторыі й незалежніцкага руху.

У сувязі з угодкамі Акту Незалежнасьці хачу закрануць тут пытаньне пра гістарычны час “волі” й “няволі” Беларусі: калі ў сваёй мінуўшчыне Беларусь была “вольнай” і калі перастала быць такой?

Першая грамата гэтага пытаньня не кранала. А ў другой сказана:

“Пасьля трох з паловаю вякоў няволі зноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць”.

“Пасьля трох з паловаю вякоў няволі…” Дык калі тая “няволя” пачалася?

Адняўшы ад 1918 “тры з паловай вякі”, мы вяртаемся ў 1568 год. Гэта – пярэдадзень Люблінскае вуніі Вялікага Княства Літоўскага з кароннай Польшчай.

Люблінская вунія 1569 году – вялікая тэма ў нашай гісторыі зь вельмі сумным вынікам для Беларусі.

Вунія гэтая, як агульна ведама, прывяла амаль да татальнай палянізацыі верхняга пласта беларускага грамадзтва й да страты беларускай мовай у 1696 годзе статусу афіцыйнай мовы ВКЛ. Вось чаму, азіраючыся ў 1918 годзе назад у мінуўшчыну, аўтары Другой Устаўной Граматы, бачачы, што панятак “беларускі народ” зьведзены ў асноўным да панятку абяздоленай сялянскай масы, далі мінулым стагодзьдзям такую адмоўную ацэнку — “няволя”.

Зусім інакш, аднак, выглядае наша мінуўшчына праз прызму Трэцяй Устаўной Граматы. Тут ужо чытаем, што

“ярмо дзяржаўнай залежнасьці… гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край”.

Гістарыяграфічнае разыходжаньне паміж другой і трэцяй устаўнымі граматамі адносна “няволі” й “волі” роднага краю вымагае тлумачэньня, бо дасюль, наколькі мне ведама, ніхто ім не займаўся. А гэта, бадай, таму, што недастаткова матэрыялаў для такога разгляду: няма патрэбных пратаколаў паседжаньяў, прэсавых паведамленьняў, лістоў, мэмуарных запісак. Нам ня ведама, якія канкрэтна былі спрэчкі-дыскусіі, як адбывалася галасаваньне, як уплывалі на працу выканаўчага камітэту вонкавыя ваенна-рэвалюцыйныя абставіны. Але разам з тым мы ведаем, што сярод лідэраў незалежніцкага руху ды палітычных дзеячоў таго часу былі людзі высока адукаваныя й палітычна дасьведчаныя. Натуральна, яны маглі адрозьнівацца адзін ад аднаго палітычнымі перакананьнямі ды паглядамі на мінуўшчыну краю.

Думаю, што аўтары Трэцяй Устаўной Граматы сказалі пра Рэч Паспалітую, у складзе якой была Беларусь, як пра “наш вольны і незалежны край” з гледзішча на Канстытуцыю 1791 году. Канстытуцыя гэтая была сфармуляваная ў духу францускай рэвалюцыі й дэмакратычных ідэяў незалежных Злучаных Штатаў Амэрыкі. Хоць яна й абвяшчала дзяржаву ўнітарнай, касуючы асобны статус Вялікага Княства Літоўскага, яна адначасна пашырала грамадзянскія й муніцыпальныя правы, давала значна больш свабоды, чымся яе мелі ў Расейскай імпэрыі падданыя самаўладнае царыцы Кацярыны 2-й. Менавіта каб спыніць пашырэньне на ўсход волялюбных ідэяў, расейская імпэрытарыца й захапіла рэшту беларускіх тэрыторыяў у двух апошніх падзелах Рэчы Паспалітай у 1793-м і 1795-м гадох, неўзабаве пасьля прыняцьця Канстытуцыі 3-га травеня 1791 году.

Як бы ні ацэньвалі тварцы ўстаўных граматаў мінуўшчыну свайго краю, ягоную будучыню яны бачылі аднолькава: незалежнасьць і дэмакратыя: нацыянальна-пэрсанальная аўтаномія, роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі; зямля бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Гісторыя паказала заснавальнікам Беларускай Народнай Рэспублікі, што адзіны шлях да справядлівага ўсенароднага дабрабыту — гэта дзяржаўная незалежнасьць! І, як трэба разумець — ніякіх вуніяў ці саюзаў ні на захад ні на ўсход, ні з Польшчаю, ні з Расеяй.

Ад часу трох устаўных граматаў Рады БНР і праз усе далейшыя гады ў беларускай гісторыі былі й ёсьць незалежнікі: тысячы іх, шчырых працаўнікоў, герояў-мучанікаў, ведамых і няведамых. Вось жа на

заканчэньне сказанага прапаную задумацца над гэтым шматзначным словам “незалежнік”. Пашукайма ў гэтым слове зьместу ня гэтулькі “для народу”, колькі для сябе асабіста, для свайго ўласнага жыцьцёвага компасу.

У вызвольным змаганьні ёсьць два аспэкты: вонкава-калектыўы й нутрана-асабісты. Задумаймася над гэтым апошнім, нутрана-асабістым аспэктам.
Слова “незалежнасьць” значыць ня быць у залежнасьці ад каго-небудзь ці ад чаго-небудзь, інакш кажучы, быць самастойным у сваіх думках і ўчынках. Найлепш бараніць інтарэсы ўласнай краіны могуць толькі незалежнікі — людзі вольныя, незалежныя ад чужое волі, ад чужое ідэялёгіі; вольныя ад няведы свае гісторыі й культуры, ад няздольнасьці валодаць мовай продкаў. Няведаньне нацыянальнае мовы асабліва згубнае, небясьпечнае, бо ў чужой мове закладзены чужыя эмоцыі, чужыя ацэначныя крытэрыі й чужыя інтарэсы.

Спрадвечная мова свайго народу – гэтая ня толькі словы, гэта й пачуцьці, гэта й сьветагляд, сьветаўспрыйманьне й сьветаразуменьне. Пра гэта сказана тысячы разоў найбольш выдатнымі мысьлярамі чалавецтва: гісторыкамі, філёзафамі, культуролягамі, філёлягамі,псыхолягамі, рэлігійнымі дастойнікамі.

Вось адно зь нядаўных красамоўных выказваньняў на гэтую тэму — глыбокамысныя словы нунцыя Ватыкану ў Беларусі, арцыбіскупа Кляўдыа Гуджэроцьці. У пасьмяротным разьвітаньні з волатам беларускага слова Рыгорам Барадулінам ён сказаў:

“Мова — гэта інструмэнт, якім карыстаецца Бог, каб размаўляць з народам.Таму яна сьвятая і вартая, каб яе шанавалі й любілі, як маці. На гэтым інструмэнце Рыгор Барадулін умеў выконваць дзівосныя мэлёдыі й дазволіў беларускаму народу сваёй мовай дакрануцца да вышынь прыгажосьці”.

Сёньня, калі расейскамоўнасьць выкарыстоўваецца Масквой як прычэпка для захопу суседзкае тэрыторыі, валоданьне нацыянальнай мовай – гэта фронт абароны Бацькаўшчыны, фронт абароны ейнай незалежнасьці.

Абагульняючы сказанае пра Незалежнасьць, хачу падкрэсьліць:

Слова-лёзунг “незалежнасьць”, ягоную практычную вартасьць, ягоны ўплыў на ходу падзеяў лягчэй зразумець і ацаніць, калі яго разглядаць з гледзішча асабістага, пэрсанальнага, не абстрагуючы яго на рэшту

грамадзтва, на цэлы народ, а перш-наперш прыкладаючы яго да самога сябе, да самое сябе.

Змаганьне за незалежнасьць і абарона незалежнасьці найбольш эфэктыўныя, выніковыя, калі яны ўгрунтаваныя на пэрсанальным разуменьні каштоўнасьці свабоды, на асабістай ведзе мінуўшыны роднага краю.

Быць незалежнікам значыць быць упэўненым, што асабістыя, уласныя перакананьні, асабістыя ўчынкі арганічна ўплываюць на нацыянальна-масавыя падзеі, на хаду гісторыі свайго народу.

Асабістая веда, асабістыя перакананьні ды абумоўленыя імі асабістыя ўчынкі — гэта той ручаёк, які зьліваецца ў шырокую плынь, сэнс і мэта якое — ужыцьцяўляць ідэі папярэднікаў і свае ўласныя аб свабодзе, незалежнасьці й народным дабрабыце.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

** Тэксты гэтых трох дакумэнтаў гл. у: Сяргей Шупа, Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Том I, кн. 1. (Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва – Таварыства Беларускага Пісьменства – Наша Ніва. Вільня – Нью-Ёрк – Менск – Прага, 1998), сс. 46-47, 52-53, 62-63.*

## Ліст Старшыні Рады БНР да беларускага народу з нагоды апошніх падзеяў

Дарагія суродзічы, браты і сёстры беларусы!

Зьвяртаюся да вас зь лістом у чарговы раз. Як і папярэднія разы, раблю гэта, бо цяпер пагражае Беларусі вялікае гора, і я ня пэўная, што вы, будучы засыпаныя хлусьлівай прапагандай, усьведамляеце ўсю глыбіню гэтай небясьпекі.

Чалавек, якога вы абралі дваццаць гадоў таму на найвышэйшую пасаду і які абяцаў народу залатыя горы, даўно ўжо забыўся пра народ. Золата ідзе яму, ягонай сям'і і памагатым, а ашуканаму народу застаецца толькі гора. Ён гатовы прадаць усё лепшае ў Беларусі, зрабіўшыся закладнікам крамлёўскага агрэсара, які пачаў адбудоўваць сваю страчаную імпэрыю, новую імпэрыю зла.

Сёньня, у 2014-м годзе, хачу прыцягнуць вашую ўвагу на адкрыта агрэсіўную дзейнасьць будаўніка гэтай імпэрыі, былога палкоўніка КГБ Пуціна, ня толькі за ўсходняй мяжой, але і ўнутры Беларусі, дзе ствараюцца і ўмацоўваюцца расейскія вайсковыя базы, нібыта дзеля абароны ад ворагаў. Беларускі народ, які гэтак пацярпеў ад войнаў, згодны амаль на ўсё, “абы не было вайны”. А ваяўнічая адбудова імпэрыі верагодна прывядзе да ваенных акцыяў, у якіх ізноў будуць гінуць маладыя беларусы і будзе зьнішчацца краіна.

Падзеі, якія адбыліся ва Ўкраіне апошнім часам, паказваюць, што Расея не зьмянілася. Гэта ня той “старэйшы брат”, зь якім беларусы нібыта зжыліся цягам дзесяцігодзьдзяў, а захопнік, супраць якога нашыя продкі змагаліся на працягу ўсяго XIX стагодзьдзя, і які адабраў у нас пачуцьцё годнасьці, родную мову, культурныя і маральныя каштоўнасьці, і нават нацыянальную сьвядомасьць. Гэта той самы “маскаль”, супраць якога перасьцярагаў нас Кастусь Каліноўскі.

Калі спраўдзяцца змрочныя прадказаньні палітычных аналітыкаў, Расея пачне з сумнавядомай “абароны рускамоўных”. Пасьля чаго з дапамогай свайго закладніка Лукашэнкі правядзе чарговы сфальшаваны “рэфэрэндум”, паводле якога 125 % насельніцтва Беларусі выкажацца за ўваход у склад Расейскай Фэдэрацыі. І на гэтым усё скончыцца. Незалежнасьць, за якую найлепшыя сыны і дочкі Беларусі змагаліся два стагодзьдзі – зноў будзе страчаная. І гэтым разам, магчыма, назаўсёды, бо

Масква ўмее прамываць мазгі, а мы – толькі між сабой ваюем. Як і іншыя паняволеныя народы.

Каб бараніцца ад чарговай акупацыі, нам патрэбная нацыянальная салідарнасьць і вера, што здолеем перамагчы.

Дарагія суродзічы! Калі вы адчуваеце сябе беларусамі, а ня толькі “тутэйшымі”, калі вы жадаеце жыць у краі шчасьлівым і заможным, давайце забудземся пра ўсё, што нас падзяляе, дзе б мы не жылі – на Бацькаўшчыне ці за мяжой. Будзьма гатовыя даць адпор захопнікам, якія жадаюць ізноў зрабіць Беларусь калёніяй сваёй імпэрыі – дзеля сваіх уласных “нацыянальных інтарэсаў”, ніяк ня нашых. Адзіны супольны нацыянальны інтарэс беларускага народу – гэта замацаваць сваю незалежнасьць.

Усяго іншага мы з часам дасягнем, бо мы народ разумны, здольны, працавіты. Тады будзе час вырашыць, якой мы хочам бачыць нашу вольную, незалежную краіну, і брацца за працу, каб зьдзейсьніць нашыя мэты.

Адзінае, чаго мы ня можам сабе дазволіць, калі любім свой край і жадаем перадаць яго сваім дзецям і ўнукам вольным ды заможным, -- гэта быць абыякавымі і чакаць, злажыўшы рукі, новае агрэсіі з боку суседа, у якога адзіная перавага над намі – сіла зброі.

Дык абвесьцім сьвету, што мы – гаспадары на сваёй зямлі, і што інакш яно быць ня можа. Дамагаймася свайго права жыць спакойна ў сябе дома, без ніякіх пагрозаў ад суседаў. Дамагаймася усе разам, каб Масква вывела з нэўтральнай Беларусі свае базы і войскі. Беларусь таксама павінна выйсьці з так званай сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД, якая цалкам кантралюецца расейскім Генштабам. Не дазволім, каб нашую моладзь уцягнулі ў чужую вайну. Сьвет нас пачуе і дапаможа, бо пабачыў на свае вочы сапраўдны твар пуцінскай Расеі.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвіла,**
**старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**
**5 красавіка 2014 г.**



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

27 чэрвеня 2014 г.

**Заява Рады БНР з нагоды падпісаньня Ўкраінай, Малдовай і Грузіяй пагадненьняў аб асацыяцыі з Эўрапейскім Зьвязам**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі вітае падпісаньне Ўкраінай, Малдовай і Грузіяй пагадненьняў аб асацыяцыі з Эўрапейскім Зьвязам. Рада віншуе кіраўніцтва і народы гэтых блізкіх Беларусі краінаў з важным крокам на шляху эўрапейскае інтэграцыі, які адчыняе для іх новыя магчымасьці для эканамічнага і гуманітарнага разьвіцьця, а таксама зьяўляецца важным этапам у вызваленьні ад спадчыны таталітарнага мінулага.

Рада БНР выступае за актыўнае збліжэньне Беларусі і Эўрапейскага Зьвязу. Дзеля гэтага Рада заклікае ўлады Рэспублікі Беларусь да неадкладнай нармалізацыі палітычных умоваў унутры краіны, а менавіта:

- да неадкладнага вызваленьня і рэгабілітацыі ўсіх палітычных зьняволеных,

- да правядзеньня свабодных і дэмакратычных выбараў на ўсіх узроўнях пад кантролем назіральнікаў АБСЭ і ў строгай адпаведнасьці зь міжнароднымі стандартамі,

- да забесьпячэньня грамадзянам Рэспублікі Беларусі свабоды сходаў, свабоды меркаваньня і іншых базавых дэмакратычных свабодаў, гарантаваных як Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусі, так і міжнароднымі пагадненьнямі, падпісаных Рэспублікаю Беларусьсю.

Рада расцэньвае датэрміновае вызваленьне ўладамі Алеся Бяляцкага як пазытыўны, але ні ў якім разе не дастатковы крок для пачатку працэса нармалізацыі стасункаў паміж Рэспублікай Беларусь і міжнароднай супольнасьцю.

Рада заклікае кіраўніцтва Эўрапейскага Зьвязу актыўна ўзьдзейнічаць на ўлады Рэспублікі Беларусь з мэтай спрыяньня паўнавартаснай дэмакратызацыі Беларусі.

**Zvarot Staršyni Rady BNR Ivonki Surviły da ŭdzielnikaŭ 31-aje Sustrečy Biełarusaŭ Paŭnočnaj Ameryki**

**30-31 žnivienia 2014 h.**

Pavažanyja surodziсy, darahija siabry!

Maju vialikuju pryjemnaść vitać Vas ad imia Rady BNR z hetaj 31-aj Sustrečaj Biełarusau Paunočnaj Ameryki, pavinšavac jaje arhanizataraŭ i pažadac usim nam plonnaj pracy.

Jechała ja siudy z nadziejaj, što znajdu słovy, kab pieradać Vam tryvohu, jakuju vyklikaje ŭ mianie novaja pahroza niezaležnaści našaj Baćkaŭščyny ŭ suviazi z padziejami na Ŭkrainie i ahresiŭnaj palitykaj Maskvy, i adnačasna vykazać nadzieju, što kraj naš usio-ž vyžyvie, što prynamsi tyja z nas, chto apynulisia ŭ volnym śviecie, zmohuć abaranić toje, što jašče zastałosia z taje niezaležnaj dziaržavy, jakuju naš źbiantežany narod daručyŭ dvaccać hadoŭ tamu svajmu pieršamu prezydentu – Alaksandru Łukašenku.

Maskoŭskaja ahresija suprać Ukrainy stałasia dokazam dla tych, chto jašče nam nia vieryŭ, i demanstracyjaj taho, što ŭsio, što my havaryli pra Rasieju – praŭda. Taksama štoraz jość bolej vidavočnym, što Łukašenka sionńnia biaśsilny vasał Rasiei, i što jon zmušany, kab zatrymacca pry ŭładzie, vykonvać zahady Maskvy – ci jany adkazvajuc intaresam Bielarusi, ci nie.

Nia pieršy heta dyktatar na našaj planecie, jaki niščyć svoj kraj i svoj narod, kab zachavać svaju ŭładu. Zatoje mała jość narodaŭ, jakija da toj stupieni maŭkliva cierpiać pieraśled. “Aby nie było vajny”… Kolki razoŭ mnie prychodziłasia apraŭdavać pierad čužyncami našuju ciarplivaść i tak zvanuju pamiarkoŭnaść. Ale ci nie chavajecca za imi niešta bolš strašnaje i šmat bolš trahičnaje, jak naš instynkt asabistaha samazachavańnia? Ci nia jość heta poŭnaja adsutnaść žadańnia, jakoje prajaŭlaje kožny narod u hetym 21-ym vieku – žyc hodna i volna? Zauvažajecca navat u nas niejkaja chvarablivaja niepavaha adny da druhich. Tamu havorym mižsobku na čuzoj movie, tamu nie prajaŭlajem nijakaj salidarnaśći ŭ dačynieńni da tych miž nami, što nie dziela svajoj viny apynulisia ŭ niavoli. Heta, mahčyma, jość i pryčynaj viečnych sprečak miž nami.

Kolki enerhii, času i hrošaj my marnujem, kab dakazać adny druhim što my razumniejšyja, što tolki my viedajem, jak i što treba rabić? I tamu nie źviartajem uvahi na apiniju inšych.

Treba pazbycca hetaj vialikaj biełaruskaj slabaśći – bo jość miž nami i tyja, chto dałučylisia da nas z namieram – ci zadańniem – razburyć toje, što było nami asiahnuta, vialikimi vysiłkami, za paŭstahodździa emihracyi. Tyja, chto starajecca pierakanać nas, što lepš nie zajmacca palitykaj i što tak i tak toje, što my robim, nikomu nie patrebnaje. Miž inšym zaŭvažyła, što heta taksama jość hałoŭnaj misijaj usich łukašenskaŭskich pasolstvaŭ i pradstaŭnictvaŭ.

Našym dobrym ludziam budzie vielmi ciažka abaranicca ad ich, kali my nia budziem salidarnymi. Tolki źjadnanyja my budziem siłaj, ź jakoju i svaje, i čužyja buduć ličycca. Tolki źjadnanyja my možam pamahčy Biełarusi.

Što my nia bačym hetaha, asabliva trahična ciapier, kali ahresiŭny susied pahražaje niezaležnaści Biełarusi, i narod naš moža zhinuć z pavierchni hetaje ziamli. Bo tak doŭha, jak ludzi na vulicach Horadni ci Miensku buduć vinavacić kijeuski “Majdan” za putinskuju ahresiju suprać Ukrainy, tak douha, jak narod budzie maŭkliva ŭspryjmać akupacyju Biełarusi nia tolki rasiejskimi aliharchami, a i maskoŭskimi zbrojnymi siłami, jakija pamnažajuć svaje bazy ŭ Biełarusi, nichto ŭ śviecie nia budzie nas baranić. Bo nas buduć ličyć za suŭdzielnikaŭ u maskoŭskich złačynstvach, a nie achviarami ich.

Havaru ja siońnia pra ŭsio heta, kab našaja hramada zadumałasia nad losam svajho narodu, dy ŭziałasia za pracu, kab jaho razbudzić – pakul jašče jon nia ŭ skladzie maskouskaj imperyi.

Dla hetaha treba, kab my adčuli svaje biełaruskija – a nie savieckija – karani, havoračy pa-biełarusku miž saboj – baćki ź dziećmi, dzieci z backami, siabry ź siabrami. Treba, kab zachoŭvali biełaruskuju kulturu, kab pavažali biełaruskija tradycyi – i nia tolki kulinarnyja. Treba, kab dzialilisia imi ź siabrami inšych pachodžańniaŭ, kab jany pra nas viedali.

Niechta kazau, što treba spačatku abžycca, a paśla budzie čas zajmacca biełaruščynaj. Nie. Nažal, jano nia tak. Na pieršym miescy treba stavić našuju spadčynu, kab nie zahinuć! Ja tut paŭtaraju toje, što kazaŭ Bahušević bolej za stahodździe tamu.

Ale pierad usim, darahija surodzičy, nam treba lubić adny druhich, tak, jak lubim svaju siamju. Sprečki ŭ siamji nia tryvałyja, nie sparadžajuć nianaviści. Tolki rab nia lubić svajho bližniaha, bo bačyć u im svaju ŭłasnuju nikčemnaść.

My nie raby! Davajcie ž supolna pracavać na karyść našaj supolnaj Baćkaŭščyny – Biełarusi.

U Paŭnočnaj Amerycy praz našuju prysutnaść u hramadzkim žyćci my ŭžo robim vielizarnuju pracu dla dabra Biełarusi. Biezumoŭna, treba, kab ludzi viedali, chto my. Kab nas šanavali i lubili. U vypadku patreby, jany buduć na našym baku I nia treba budzie im tłumačyć, što Łukašenkaŭski režym nie pradstaŭlaje saboju biełaruskaha narodu.

Padzialiłasia ja z Vami maimi kłopatami. Ja pierajmajusia budučyniaj Biełarusi, tamu što ja biaskonca lublu Biełarus. Pahroza jaje niezaležnaści dla mianie jość niaznosnaj. Vieru, što takoj jana jość i dla ŭsich vas tut prysutnych, i tamu, razam my asiahniem metu Rady BNR i ŭsich nas – volnuju, demakratyčnuju i biełaruskuju Biełaruś.

Žyvie Biełaruś!

**Ivonka Surviła**



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

12 верасьня 2014 г.

**Рэзалюцыя**
**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**
**у справе агрэсіі Расеі супраць Украіны і становішча Беларусі**

Рада БНР,

- у занепакаеньні аб факце збройнай агрэсіі Расейскай Фэдэрацыі супраць Украіны і аб наступствах для лёсу Беларусі і рэгіёна,

- зазначаючы міжнародна-праўнае вызначэньне агрэсіі, дадзенага ў Рэзалюцыі Генэральнай Асамблеі ААН 3314 (XXIX) ад 14 сьнежня 1974 году,

- спасылаючыся на артыкул 51 Статуту ААН аб неад'емнасьці права дзяржаваў-сяброў ААН на індывідуальную і калектыўную самаабарону ад збройнага нападу, а таксама Артыкул 42 Статуту ААН аб дзеяньнях міжнароднай супольнасьці паветранымі, марскімі і сухапутнымі сіламі дзеля абароны міжнароднага міру і бясьпекі ад агрэсара,

- робячы выснову, што дзеяньні расейскага кіраўніцтва і асабіста прэзыдэнта Расеі Ўладзіміра Пуціна наўпроста пагражаюць міру ў Эўропе і ўпершыню пасьля зьнікненьня СССР ствараюць у рэгіёне небясьпеку буйнамаштабовае вайны,

- канстатуючы ненадзейнасьць замірэньня, усталяванага паводле заключанага 5 верасьня пагадненьня, зважаючы ў тым ліку на папярэднія прэцэдэнты парушэньня або невыкананьня Расейскаю Фэдэрацыяй і падкантрольнымі ёй нерэгулярнымі ўзброенымі фармаваньнямі сваіх абавязальніцтваў у рамках мірных пагадненьняў, у тым ліку пагадненьняў аб замірэньні ў Грузіі ад 2008 года,

- прыгадваючы Заяву Рады БНР “З нагоды небясьпекі збройнага канфлікту на тэрыторыі Ўкраіны” ад 3 сакавіка 2014 г.,

- памятаючы 75-годзьдзе пачатку Другое Сусьветнае вайны і стагоддзе пачатку Першае Сусьветнае вайны ў гэтым годзе:

(A) рашуча асуджае збройную агрэсію Расейскай Фэдэрацыі супраць Украіны;

(B) канстатуе, што цяперашнія дзеяньні Расейскай Фэдэрацыі, як і папярэдняя анэксія Крыма, носяць супрацьзаконны характар і супярэчаць базавым прынцыпам міжнароднага права і прынцыпам міжнароднай бясьпекі, распрацаваным пасьля Другой Сусьветнай Вайны, а таксама ўласным міжнародным забавязаньням Расейскай Фэдэрацыі паводле Статуту ААН і іншых дзьвухбаковых і шматбаковых міжнародных актаў;

(C) заклікае міжнародную супольнасьць аказаць усю магчымую падтрымку абароне Ўкраіны ад вонкавай агрэсіі, разглядаючы цяперашнюю сытуацыю як найбольш сур'ёзнае выпрабаваньне для мэханізмаў бясьпекі на эўрапейскім кантынэнце, для ўсяе сучаснае сыстэмы бясьпекі ў міжнародных дачыненьнях, а таксама для мэханізмаў забесьпячэньня жыцьця народаў Эўропы ў міры і згодзе, з часоў Другой Сусьветнай вайны;

(D) заклікае бакі канфлікту ва ўсходняй Украіне да канчатковага пераводу процістаяньня з ваеннага рэчышча ў палітычнае, а міжнародную супольнасьць – да спрыяньня гэткаму пераводу, перадусім праз уплыў на кіраўніцтва Расейскае Фэдэрацыі;

(E) папярэджвае афіцыйных асобаў Рэспублікі Беларусь аб адказнасьці за магчымае ўцягваньне Беларусі ў вайну і падтрымку збройнай агрэсіі. Удзел Беларусі ў агрэсіўных зьнешніх авантурах кіраўніцтва Расеі або прамое ці ўскоснае спрыяньне ім зьяўляюцца цалкам недапушчальнымі, зважаючы асабліва на цяжкія страты, якія Беларусь пацярпела ў выніку войнаў напрацягу апошніх стагодзьдзяў. У прыватнасьці, недапушчальным зьяўляецца выкарыстаньне для любых формаў уцягваньня Беларусі ў вайну абавязкаў, прынятых ад імя Беларусі дзяржаўным кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнкі ў рамках Арганізацыі Дамовы Калектыўнай Бясьпекі, а таксама любых іншых угодаў, заключаных названым дзяржаўным кіраўніцтвам ад імя Беларусі з Расейскай Фэдэрацыяй;

(F) заклікае міжнародную супольнасьць, зважаючы на спробы рэжыма Аляксандра Лукашэнкі здабыць зь цяперашняй міжнароднай сытуацыі выгоды накарысьць палітычнага і эканамічнага становішча сваёй улады над Беларусьсю, прытрымліватца пасьлядоўнай і цьвёрдай пазыцыі адносна гэтага недэмакратычнага і рэпрэсіўнага рэжыма. Рада БНР падкрэсьлівае, што комплексная нармалізацыя стасункаў паміж сучаснымі ўладамі Рэспублікі Беларусь і міжнароднай супольнасьцю дапушчальная толькі пасьля вызваленьня і рэгабілітацыі беларускіх палітычных вязьняў, правядзеньня дэмакратычных выбараў у Беларусі і пры ўмове забесьпячэньня грамадзянам Рэспублікі Беларусі базавых дэмакратычных свабодаў;

(G) выказвае сваю салідарнасьць і падтрымку народу, дзяржаўнаму і ваеннаму кіраўніцтву Ўкраіны, якая перажывае адзін з найбольш драматычных і адказных момантаў у сваёй найноўшай гісторыі. Ад таго, ці вытрымае Ўкраіна цяперашнія выпрабаваньні, будзе залежыць і будучыня Беларусі і рэгіёна;

(H) вітае і разглядае любую падтрымку, якую беларусы ў Беларусі і ўсім сьвеце будуць аказваць украінскаму народу і дзяржаве ў справе абароны сувэрэнітэта Украіны ад вонкавай агрэсіі, а таксама такую падтрымку трэцім бакам, якія бы дзейнічалі ў названых мэтах, як адпаведную доўгатэрміновым інтарэсам нацыянальнай бясьпекі Беларусі.

## Няхай памяць натхняе нас, зварот Старшыні Рады БНР з нагоды Дня Герояў – 2014

Паважаныя Суродзічы, Дарагія Сябры!

«Няхай памяць натхняе нас...»

Словы гэтыя прамовіў на сьвяткаваньні канадыйскага Дня Герояў – 11-га лістапада - прадстаўнік Каралевы ў Канадзе Дэвід Лойд Джонсан.

З нагоды нашага Дня Герояў, у гэтыя 94-ыя ўгодкі першага дня Слуцкага Збройнага Чыну, віншую ўсіх вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам і жадаю, каб памяць пра нашых герояў дала нам сілу давесьці да перамогі пачатае імі змаганьне за волю свае зямлі.

Случчакам не было патрэбы задумвацца, ад каго бараніць сваю незалежную дзяржаву. Да сямідзесяцігадовага прамываньня мазгоў нашага паняволенага народу, усім было ясна, адкуль ішла пагроза.

Дарагія сябры, памятайма Случчакоў. Памятайма з удзячнасьцю ўсіх нашых продкаў, якія на працягу нашае гісторыі баранілі наш край. Дзякуючы іхняй мужнасьці, мы яшчэ жывем і ведаем, хто мы.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла,**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Лістапад 2014.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

5 сьнежня 2014 г.

**Заява Рады Беларускае Народнае Рэспублікі з нагоды 20-годзьдзя Будапэшцкага мэмарандуму**

Дакладна дваццаць гадоў таму, 5 сьнежня 1994 г. у Будапэшце быў падпісаны “Мэмарандум пра гарантыі бясьпекі ў сувязі з далучэньнем Беларусі да Дамовы пра нераспаўсюд ядравае зброі”. Паводле гэтага дакумэнту Рэспубліка Беларусь узяла на сябе абавязак вывесьці з сваёй тэрыторыі ядравую зброю, якая была разьмешчаная на тэрыторыі Беларусі кіраўніцтвам СССР.

Узамен гэтага Расея, Вялікая Брытанія і ЗША бралі на сябе, сярод іншага, наступныя абавязкі:

- Паважаць незалежнасьць, сувэрэнітэт і існуючыя межы Рэспублікі Беларусь,

- Устрымлівацца ад пагрозы сілы або яе ўжываньня супраць тэрытарыяльнае цэласьці Рэспублікі Беларусь

- Устрымлівацца ад эканамічнага прымусу, скіраванага на тое, каб падпарадкаваць сваім уласным інтарэсам ажыцьцяўленьне Рэспублікай Беларусь правоў, якія належаць яе сувэрэнітэту,

- Дабівацца неадкладных дзеяньняў Рады Бясьпекі ААН дзеля дапамогі Рэспубліцы Беларусь ў выпадку, калі Рэспубліка Беларусь станецца ахвяраю акту агрэсіі ці аб'ектам пагрозы агрэсіі.

Аналягічны мэмарандум быў падпісаны з Украінаю і Казахстанам.

Рэспубліка Беларусь, Украіна і Рэспубліка Казахстан цалкам выканалі свае абавязкі згодна з Мэмарандумам.

Аднак падзеі 2014 года – перадусім, незаконная збройная анэксія Крыма і распальваньне вайны ў Данэцкай і Луганскай абласьцях Украіны – выявілі сабою сытуацыю, у якой Расейская Фэдэрацыя бясспрэчна парушыла ўсе пункты Будапэшцкага мэмарандуму з Украінаю, акрамя тых, якія тычацца выкарыстаньня супраць Украіны ядравае зброі.

Гэта важны нэгатыўны прэцэдэнт для Беларусі, якая дэ-факта даўно зьяўляецца аб’ектам эканамічнае агрэсіі з боку Расеі і чые сілавыя структуры ў значнай ступені кантралююцца Расеяю. Сувэрэнітэт Беларусі, а таксама бясьпека на эўрапейскім кантынэнце ўвогуле, застаюцца пад вялікай пагрозаю ў сувязі з агрэсіўнай рэваншысцкай палітыкай сучаснага расейскага кіраўніцтва і асабіста прэзыдэнта Ўладзіміра Пуціна. Грубае парушэньне і фактычная дэнансацыя Будапэшцкага мэмарандуму з боку Расейскае Фэдэрацыі шматкроць падвысілі гэтую пагрозу.

Рада БНР заклікае міжнародную супольнасьць, і перадусім Вялікую Брытанію і ЗША як краіны, што таксама падпісалі Будапэшцкі мэмарандум, а таксама Францыю, якая далучылася да гарантыяў бясьпекі Ўкраіне:

- Аказаць усю магчымую падтрымку Ўкраіне ў абароне яе сувэрэнітэту і тэрытарыяльнае цэласьці. У тым ліку гэткая падтрымка павінна ўключаць вайсковую і матэрыяльную дапамогу, а таксама экспэртную дапамогу ўраду Ўкраіны пры распрацоўцы і рэалізацыі праграмы рэформаў;

- Актыўна спрыяць дэмакратызацыі палітычнага рэжыму ў Рэспубліцы Беларусь. Менавіта рэжым неабмежаванай асабістай улады Аляксандра Лукашэнкі зьяўляецца галоўнай пагрозаю для незалежнасьці Беларусі.

Спасылаючыся на пункты “Мэмарандуму аб захадах для забесьпячэньня незалежнасьці Беларусі”, падпісанага 3 лістапада 2012 г., Рада БНР заклікае ўсе беларускія палітычныя сілы да зьдзейсьненьня ўсіх магчымых міжнародных захадаў дзеля гарантаваньня незалежнасьці Беларусі ў становішчы, калі наяўныя гарантыі паказваюць сваю недастатковасьць.

# Summary in English

### The Rada of the Belarusian Democratic Republic: extended annual report for 2012, 2013 and 2014

The Rada of the Belarusian Democratic Republic (the Rada BNR) is the oldest existing Belarusian governmental body, established in 1917 at the All-Belarusian Congress of political organisations and local governments in Minsk. In 1918, the Rada BNR acted as the temporary supreme legislative and executive body of the Belarusian Democratic Republic. Since 1919, the Rada BNR is in exile and represents the interests of an independent and democratic Belarus in the Free World. During these years, the Rada BNR has established and maintains working contacts with representatives of governments of democratic countries, advising them on policies towards Belarus.

The Rada BNR represents Belarus at international conferences such as *Legal Settlement of Communist Crimes*, organised by members of the European Parliament in Brussels (June 2012), or the Symposium on Belarus at Wartburg College, Iowa (January 2014). The Rada plays an active role as a partner and moderator of the Belarusian democratic opposition by conducting projects and common initiatives such as the 2012 *Memorandum to Safeguard the Independence of Belarus* signed by representatives of all major democratic political organisations of Belarus.

Since 2013, the events in Ukraine have been shaping the regional agenda and the political agenda for Belarus. Ruled by the authoritarian regime of Alaksandar Lukashenka, Belarus faces the threat of becoming the next target of Russian imperialism. The Rada BNR has been actively supporting Ukraine and condemned Russia’s annexation of Crimea. During 2014, the President of the Rada BNR has spoken at various events dedicated to Ukraine.

